# ГОЛАС ЦАРКВЫ

РЭЛІГІЙНА-ГРАМАДЗКІ ЧАСАПІС ПРАВАСЛАЎНЫХ БЕЛАРУСАЎ
Выдае Рада Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы
"The Voice of the Church", Published by the Council of the
Byelorussian Autocephalic Orthodox Church
**401 Atlantic Ave., Brooklyn, New York 11217, U.S.A. Price $3.00**

No.56 КРАСАВІК – 1985 – APRIL Год.31


# ВЯЛІКОДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

## УСЯЧЭСНАМУ СЬВЯТАРСТВУ І ЎСІМ ВЕРНІКАМ БЕЛАРУСКАЙ АЎТАКЕФАЛЬНАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ

*ХРЫСТОС УВАСКРОС!*

*„Хай уваскрэсьне Бог і разьбягуцца ворагі Яго, і уцякуць ад аблічча Ягонага ненавідзячыя Яго''(Пс.67,2)*

Гэтыя натхнёныя словы цара Давіда чуем мы ў пасхальную ноч і потым у Вялікодным тыдні. У вуснах прарока яны гучаць, як пажаданьне, пранятае ўпэўненасьцю, што яно так будзе: што ўваскрэсьне Бог і разьбягуцца ворагі Яго; а мы вымаўляем іх пераможна, з вялікай радасьцяй, што зьдзейсьнілася прароцтва ў ноч Уваскрасеньня Хрыстовага. І адразу за гэтымі словамі старадаўнага прароцтва гучыць магутны новазапаветны гімн Царквы:''Хрыстос уваскрос з мёртвых, сьмерцяю сьмерць патаптаў і тым, хто ў грабох, жыцьцё дараваў''. Гэты гімн такі нязвычайны, што перад сілай яго ўплыву на душы адступаюць варожасьць і падзел.

Прадчуваньне перамогі над сьмерцяй, гэтым "апошнім нашым ворагам", паводле апостала Паўлы (1Кар.15,26), ахапляе нашыя душы у сьвятую ноч з такой сілай, што мы перастаем яе баяцца, а запытаньні сьвяшчэннаслужыцеля – "Сьмерць, дзе тваё вастрыё? Пекла, дзе

твая перамога?" – мы перажываем, як-бы самі былі пераможцамі і пекла і сьмерці. Прадчуваньне стае дзейснасьцю ў гэту прамяністую Вялікодную ноч. А душа, раз перажыўшы гэта пачуцьцё бясстрашнасьці перад абліччам сьмерці, ужо ніколі яго не забудзе, як не забудзецца яна і на Таго, Хто падарыў ёй гэтую перамогу над сьмерцяй.

Усё даў Госпад чалавеку дзеля зямнога шчасьця і яшчэ больш абяцае ў будучым жыцьці, пасьля ўсеагульнага ўваскрасеньня – "у новым небе і новай зямлі, дзе праўда жыве"(2Пётра3,13). Толькі дзейце справядліва, любеце ўчынкі міласэрдзя і ў пакоры хадзеце перад Богам!(Міх.6,8).

Пераможца сьмерці і пекла, Хрыстос-Збаўца – вось наша надзея! Ён прыйдзе судзіць сьвет па праўдзе і аддаваць па яго заслугах. У прадчуваньні Ягонай перамогі над усімі супраціўнікамі, мы, у Вялікодную ноч, забыўшы ўвесь страх і жыцьцёвыя нягоды, усклікнем-жа з верай: Хай уваскрэсьне Бог і разьбягуцца ворагі Яго!

У Вялікодную ноч успомнім сваіх родных і ўсіх беларусаў на Бацькаўшчыне ды па ўсім сьвеце параскіданых. У нашых малітвах будзем прасіць Усемагутнага Бога лепшае долі для нашага няшчаснага Народу каб кіраваў усіх нас да дабрачыннага жыцьця ў веры і поўнай надзеі на Яго, ды каб натхняў нас да пазнаньня Праўды Ягонае.

Ад шчырага сэрца вітаем усіх Вас, дарагія, з Найвялікшым Сьвятам Праваслаўнай Царквы – Уваскрасеньнем Госпада нашага Ісуса Хрыста і жадаем радасна ды ўрачыста адсьвяткаваць яго, бо Ен Сапраўды Ўваскрос!

Пакорны ў Хрысьце Мітрапаліт Ізяслаў
Першагерарх Б.А.П.Ц.

Данае ў красавіку
лета Божага 1985

З ВЯЛІКІМ СЬВЯТАМ
УВАСКРАСЕНЬНЯ ХРЫСТОВАГА
*Вітаем*
**Высокапрэасьвяшчэннага** Мітрапаліта *ІЗЯСЛАВА*
Дастойнае Сьвятарства і ўвесь клер царкоўны,
Парахвіяльныя Рады, Брацтвы й Сястрыцтвы,
ды ўсіх вернікаў
Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы
і ўвесь Беларускі Народ
на Радзіме й на чужыне.
*ХРЫСТОС УВАСКРОС!* *ЗАПРАЎДЫ ЎВАСКРОС!*
*Кансысторыя і Рада Б.А.П.Ц.*



# ІСУСАВА МАЛІТВА

Аднаго разу, калі Госпад наш Ісус Хрыстос набліжаўся да Ерыхону, адзін сьляпы жабрак, давелаўшыся, што праходзіць Ісус, закрычэў:"Ісусе, Сыне Давідаў, памілуй мяне!" Ішоўшыя сьпераду стараліся яго ўцішаць, але ён крычаў яшчэ мацней: "Сыне Давідаў, памілуй мяне!" Госпад, спыніўшыся, загадаў прывесьці яго да сябе і,калі той падыйшоў, спытаўся яго: "Чаго хочаш ад Мяне?" Той адказаў:"Госпадзе, каб мне бачыць!" Тады Госпад сказаў яму: "Бач – вера твая спасла цябе". І ён тут-жа стаў бачыць! Гэта ілюструе сілу малітоўнага пакліканьня Сьвятога Імя Госпада нашага Ісуса Хрыста.

Вось чаму усякі хрысьціянін павінен,падобна евангельскаму сьляпому, якнайчасьцей і ўва ўсіх абставінах жыцьця прыклікаць найсалодшае Імя Ісуса: "Госпадзе Ісусе Хрысьце, Сыне Божы – памілуй мяне грэшнага!" Гэта кароткая малітва завецца Ісусавай малітвай. У кароткіх яе словах крыецца глыбокі зьмест: ёю хрысьціянін разам услаўляе Ісуса Хрыста і моліць Яго; у ёй ён вызнае сваю веру ў Богачалавечую годнасьць Хрыста, каіцца ў сваіх грахох і выражае пільную патрэбу ў міласьцівай Яго помачы, ды шчырае жаданьне збаўленьня.

Няма сумненьня, што кароткая Ісусава малітва мае вялікую сілу перад Богам, калі яна гаворыцца з верай у сэрцы і з тымі пачуцьцямі, якіх вымагае такі шырачэзны яе сэнс. Адно пакаяльнае слова мытара зьміласьцівіла Бога, адно кароткае прызнаньне спасло разбойніка. Такія-ж вынікі будзе мець і Ісусава малітва, калі выконваць яе з пакаяньнем мытара і з вераю разумнага разбойніка. Бо Імя Хрыстова мае вялікую сілу у справе нашага спасеньня: па слову апостала "няма іншага імя пад небам дадзенага людзям, якім-бы нам спасьціся"(Дзеяньні,4,12). Імя Хрыстова страшнае для дэманаў, бо Сам Збаўца сьцьвердзіў, што "Імем Маім будуць выганяць дэманаў"(Марк16ь17;Лука, 10,17). Затым вельмі добра робіць той, хто паўтарае Сьвятое Імя Хрыстова, але каб запэўніць сабе узьдеяньне Яго Ласкі, заўсёды неабходна імкнуцца сэрцам увайсьці ў жывое духовае спалучэньне з Ім ува ўсякую пару дня і ночы...

Паводле вучэньня сьв.айцоў, Ісусава малітва зьяўляецца асабліва пэўным сродкам дзеля адганяньня нячыстых помыслаў, што прыліпаюць да душы. "Калі нахлынуць дурныя думкі – кажа адзін св.айцец – ты гавары:"Госпадзе, Ісусе Хрысьце..." Гавары часта, з цярплівасьцю, і думкі адбягуць, бо ад сардэчнай цеплаты, што прамянюе з малітвы, яны ўцякаюць, як ад агню". Думкі такія часта засяваюцца ў душы дыявалам, які "равучы як леў ходзіць шукаючы, каго праглынуць"(Пят.5,8). Вось супраць такіх падкопаў дыявалскіх малітва Ісуса служыць магутнай зброяй. Яе збаўчае дзеяньне сьв.айцы ўпадабняць да дзеяньня сапраўднага агня. "Малітва Ісусава – гаворыць авва Дарафей – калі выконваецца з увагай, робіць чалавека, як агонь і ня можа прыблізіцца да яго сатанінскае дзеяньне..."

Зьведаўшы вялікую сілу і збаўленчае дзеяньне Ісусавай малітвы, сьв.Ян Залатавусны пераконвае хрысьціянаў: "Шукайце ў Госпада міласьці пакорным і расчуленым сэрцам ды ад раніцы да вечара клічце: Госпадзе Ісусе Хрысьце, Сыне Божы, памілуй нас! І панукайце

ваш розум на гэта да самай сьмерці, бо гэта справа патрабуе частага высілку дзеля таго, што цесны вароты і вузкі той шлях, што вядуць у жыцьцё, і вельмі мала хто знаходзіць іх. Таму малю вас – правіла гэтае малітвы ніколі не пакідайце і ім не пагарджайце,але ці ясьце, ці п'яце, ці ідзеце куды, ці што іншае робіце, бесьперапынна прыклікайце:"Госпадзе Ісусе Хрысьце, Сыне Божы, памілуй нас!"Таму заўсёды трымай у памяці Імя Госпада Ісуса, каб тваё сэрца спалучылася ўв адно з Ім, а Госпад з тваім сэрцам".

# Сьвятая Новамучаніца Агата

Сьвятая мучаніца Агата была прадбачлівай старыцай. Жыла яна ў нас на Беларусі, непадалёк ад Гомеля.З дзяцінства спараліжаваная, яна ўвесь свой час праводзіла ў малітве і роздумах пра Бога. Калі ёй споўнілася 12 год жыцьця, яна за чысьціню свайго сэрца ўдастоілася асабістага наведаньня Багародзіцай, Прачыстай Дзевай Марыяй, ад Якой яна і атрымала поўнае выздараўленьне, але пад умовай, што ніхто і ніколі не даведаецца пра гэта цудоўнае выздараўленьне.

Дзяўчынка па-ранейшаму далей ляжала на сваім звыклым месцы, на печы, стараючыся схаваць ад бацькоў, што яна ўжо здаровая. Але тыя незабавам прыкмецілі вялікую зьмену на лепшае ў іх дачушкі і настойліва прасілі паказаць ім, што яна ўжо здаровая, прайшоўшыся па хаце. Сьвятая доўга не пагаджалася парушыць дадзеную ей Багародзіцай запаведзь, але сьлёзныя просьбы бацькоў урэшце зьмякчылі дзіцячае сэрца: яна зьлезла далоў і пашла па хаце... Але радасьць бацькоў была кароткатрывалай, бо хвароба тут-жа вярнулася да сьв.Агаты і ўжо не пакідала яе да скону.

Горка аплаквала свой грэх блажэнная дзяўчынка і хутка дасягнула новых вышыняў сардэчнае чысьціні, заслужыўшы ў Бога шматлікіх дароў, абяцаных тым, хто сапраўды веруе ў Яго. З яе малітваў ішло вылячэньне хворым, пацяшэньне нешчасьлівым. Валодаючы дарам празорлівасьці, яна многім прадказала будучыню.За духоўным настаўленьнем да сьвятое прыходзілі навет пасівелыя схімнікі.

Пасьля рэвалюцыі і захопу ўлады ў краіне бальшавікамі (у тую пару сьв.Агаце было ўжо блізу 100 гадоў!) сьвятая памагла многім захаваць у чысьціні веру продкаў, умацоўваючы людзей ув адданасьці Царкве: яна наварочвала зблудзіўшых і адпаўшых ад Праваслаўнай Царквы і пайшоўшых у г.зв."нрваадналуенства". Не баючыся прасьледу, народ гуртам ішоў да сьвятое за парадай і дапамогай. Яна строга забараняла ўступаць у калгасы, запісваць дзяцей у піянеры, наведваць абнаўленскія цэрквы.

Савецкія ўлады добра ведалі пра яе ўплыў на народ, але доўгі час чамусьці баяліся яе зачапіць. Наважыўшы ўрэшце пакончыць са сьв.Агатай, аднойчы паслалі чатырох чэкістаў, каб яе арыштавалі. Тыя, наблізіўшыся да дому сьвятое, раптам адчулі вялікі страх і ў паніцы вярнуліся ў ГПУ, ня выканаўшы загаду...Тады, саромячыся свае бездапаможнасьці, улады пастанавілі замарыць сьвятую голадам: акружыўшы яе дом патрулямі, што дзяжурылі дзень і ноч, яны праз тры дні і тры начы нікога не дапускалі да сьвятой і яна ўрэшце здалася...Без куска хлеба, у неапаленай хаце (месяц люты стаяў на двары), сьвятая ціха адыйшла да свайго ўзьлюбленага з дзяцінства Хрыста на 119-тым годзе жыцьця, прыняўшы вянок мучаніцы. За год да свайго скону яна падрабязна прадказала, як будзе замарожана ў сваей уласнай хаце. Спачыла ў Богу сьв.Агата ў лютым 1939 году.



# ВЯЛІКДЗЕНЬ У НАВАГРАДГЫНЕ

З набліжэньнем Вялікадня, прыблізна ў палавіне вялікага посту, людзі зразалі галінкі вярбы, папулярнага ў нас дрэўца, ды ставілі іх у воду з разьлікам, каб яны расьцьвілі перад самай Вербніцай, нядзеляй уваходу Госпада нашага Ісуса Хрыста ў Ерусалім. У Лазараву Суботу, або і раней, зразалі прыгожыя і густыя ветачкі ялаўцу, каб іх разам з расьцьвіўшаю вярбою ўпрыгожыць каляровымі істужкамі і кветкамі з паперы, якія цудоўна рабілі дзяўчаты, ды занесьці ў царкву ў Вербную Нядзелю на асьвячаньне, дадаўшы да ўсяго сьвячу.

У той-жа дзень, на паваротнай дарозе з царквы, кожнага напатканага лёгка шлёпалі асьвячанай вярбою, прыгаварваючы:"Ня я б'ю, вярба б'е – за тыдзень Вялікдзень..." У гэты дзень дзяўчаты стараліся надзяваць доўгія спадніцы. Прынёсшы асьвячаную вярбу ў хату, запальвалі сьвячу, а ёю спальвалі крыху ялаўцу і ўвесь дом напаўняўся прыемнай духмянасьцяй. Пасьля гэтага вярбу з ялаўцом ставілі на покуці ля сьв.ікон, дзе яны прабудуць да наступнага году, а старую спальвалі. Выганяючы скаціну ў поле першы раз вясною, рабілі гэта абавязкава з асьвячанай вярбою.

Страсны, ці інакш Вялікі Тыдзень, пачынаўся падрыхтоўкай да Вялікодных сьвят, найбольш урачыстых у праваслаўным календары. Хто занядбаў паспавядацца і прычасьціцца, стараўся зрабіць гэта на гэтым тыдні. Чысты Чацьвер завуць чыстым, бо да гэтага дня ў хаце ужо ўсё мае быць вымыта і вычышчана, дзеці і сталыя пакупаныя, бо рана і на вечар трэба быць у царкве. Пасьля службы Страсьцяў ды чытаньня 12-ці Евангельляў, у цемры начы людзі стараліся данесьці да свае хаты запаленыя сьвечкі. Прыгожа было паўзіраца..

У Вялікую Пятніцу – хто жыў блізка царквы, ішоў на Багаслужбу раніцай і па паўдні на вынас Плашчаніцы, а далёкія – толькі на вынас Плашчаніцы. Гаспадыні з вялікімі сем'ямі аставаліся дома, бо трэа-ж было наварыць і напячы ежы на тры дні сьвят: па старой традыцыі не палілі ў печах, ані варылі ў сьвятыя дні, а елі толькі загадзя нагатаванае і асьвячанае. Людзі цьвёрда рэлігійныя апошнія тры дні Страсной нядзелі, пачынаючы з Вялікага Чэцьвера, пасьцілі, як у нас кажуць, шчырым постам, г.зн. цэлымі днямі нічога ня елі і ня курылі, а толькі хто быў слабы пасьля захаду сонца спажывалі кусок чорнага хлеба і папівалі вадой. Я сам яшчэ недалеткам так пасьціў,хоць бацькі мяне да гэтага не прымушалі, адно напаміналі,што трэба пасьціць. Пасьля такога посту я заўсёды пачуваў сябе добра.

На Ўсяночную людзі сходзіліся ўжо з вечара, каб паставіць сьвя-

чу і памаліцца ля Гробу Гасподняга, ды паслухаць чытаньня з кнігі Дзеяньняў сьв.Апосталаў. Усе несьлі нешта на асьвячаньне – мясіва і булкі, сыр і яйкі, у корабах шытых з саломы, ці ў кошыках плеценых з лазы. На Усяночнай заўсёды была процьма народу.

Пасьля службы і асьвячаньня Пасхі людзі разыходзіліся па хатах разгаўляцца. Разгавеўшыся, тыя, што ўсю ноч маліліся,служылі, сьпявалі, чыталі, ішлі адпачываць; іншыя, паклаўшы ў кішэні хварбаваных яёк (на чырвона лушпіньнем цыбулі, а на зялёна імхом са стрэхаў) ішлі гуляць у біткі: чыё яйко пад ударам пабілася, той аддаваў яго ўласьніку мацнейшага яйка. Маладыя хлопцы і дзяўчаты тварылі гурткі валачобнікаў, ды пад вечар першага дня хадзілі ад хаты да хаты, сьпяваючы пад вокнамі вялікодныя песьні – агульныя і адмысловыя, гаспадыні, гаспадару, паненцы, ці панічу, залежна ад абставін – за што іх шчодра дарылі яйкамі, іншай ежай, ці грашыма.

Прыбіраючы са сталоў пасьля разгаўленьня гаспадыні ня выкідалі лупін ад асьвячаных яёк,ані касьцей ад асьвячанага мяса: лупіны палілі, або закопвалі ўв агародзе, а косьці зьбіралі і трымалі да Юр'ева дня. У дзень сьв.Юр'я гаспадар ішоў аглядаць засееныя палеткі, браў гэтыя косьці з сабою і ўтыкаў іх у зямлю па ўсіх палетках у памяць перамогі сьв.Юрыя над злым ворагам.

М.Наваградзкі

# Таінства сьв. Прычасьця

Чалавечае сэрца – поле змаганьня з яго пачуцьцямі і пажаданьнямі. Ня было-б таго змаганьня, не магло-б сэрца пазнаваць і ўдасканальвацца, бо было-б пазбаўлена досьледу параўнаньня: ня ведаючы цемру, як спазнаць сьвет? Ёсьць змаганьне,ёсьць і надзея на перамогу. Без змаганьня наступае паняволеньне душы грэхам.

Сапраўды, пакуль грэшнік дaслоўна купаецца ў грэшных пачуцьцях, зусім не змагаючыся з імі, яму можа здавацца, што ён зусім шчасьлівы і задаволены жыцьцём, але ўсё гэта кароткатрывалая ілюзія... Праходзіць чад галавакружнага посьпеху, прыходзіць роздум, вылазіць наверх няпраўда, якой спрытна прыкрываўся ўдачнік, адварочваюцца ад яго дарагія яго сэрцу людзі, ідзе няўдача за няўдачай, навальваюцца хваробы – ружовыя акуляры спадаюць з вачэй разачараванага насалодалюбца і сумным становіцца жыцьцё ягонае. Унеспадзеўкі самому сабе спазнае ён, што нятолькі "кароль гол", але і што папаў у страшнае зьняволеньне. Пачынае ўрэшце разумець, што калі ня знойдзе ў сабе духоўнай сілы, каб падняцца над цемраю зла і накіравацца да сьвятла праўды і дабра – пагібель душы і цела нямінучая.

На шчасьце наша ёсьць Бог Міласьцівы, Які, хоць і дапускае узьдзеяньне на нас злых духаў, хоць і папускае спакусам дзеля нашай навукі і карысьці (ужо сьв.ап.Паўла ўсклікаў – "...дадзена мне калючка ў цела, ангел сатанін, каб зьняважаць мяне, каб я не вывышаўся", 2,Кар.12,7), але Ён бачыць усякі шляхотны парыў душы людзкой і дае ёй усякую ахову. Перш за ўсё, Госпад улажыў у несьмяротную душу нашу цудоўную частку Свайго голасу – сумленьне, каб кіравала свабоднай нашай воляй. Пад узьдзеяньнем гэтае духовае сілы чалавек



можа перайсьці ад зразуменьня сваіх няпраўдаў, свайго крывадушша, да поўнага пакаяньня і адухаўленьня.

Скуль-жа прыходзіцца нам гэта дзіўная магчымасьць перараджэньня? Найперш, тайнадзейнае спалучэньне чалавека з Хрыстом пачынаецца са сьв.Таінства Хрышчэньня і Мірапамазаньня, пасьля якога Ласка Божая ўваходзіць у сэрца хрысьціяніна і ў ім прабывае, памагаючы яму жыць пахрысьціянску і духова ўзрастаць, аж пакуль сваімі грахамі, асабліва сьмяротнымі, ён яе, гэтае Ласкі, ня страціць...

Але і тут Бог чалавека не пакідае: згубіўшы набытую хрышчэньнем Ласку хрысьціянін можа вярнуць сабе цераз сьв.Таінства Пакаяньня, якому таму і даюць часам назоў "другога хрышчэньня", або "хрышчэньня сьлязьмі". Бяз помачы Божае пакаяньне немагчымае. Страціўшы кантакт з Богам, чалавекпападае ў цемру грэху, якую наводзіць на яго сатана. Пакуль тую цемру не разгоніць Ласка Божая, чалавек ня ў сілах навет належна сабе ўсьведаміць сваё палажэньне, ён "нядужае з асьляпленьня, нячуласьці і незараднасьці"(еп.Феафан).Але Хрыстос сказаў:"Ніхто ня можа прыйсьці да Мяне, калі яго ня прывабіць Айцец,што паслаў Мяне, і Я ўваскрашу яго ўв апошні дзень"(Ян6,44). Вось дзе грэшнікаў ратунак: Перш, той завабны ціхі голас Бога Айца, прасьвятляючы зацемнены розум, саграваючы ахаладзелае і акамянелае сэрца, будзячы сьляпую на дабро волю,спараліжаваную сатаною – раней ці пазьней ён прыходзіць, гэты голас, да кожнага грэшніка і стукаецца яму ў сэрца. Тады сьвет Божае Праўды, як маланка асьвятляе цемру грэху і паказвае грэшніку паваротную дарогу да страчанага спалучэньня з Богам. Ен можа цяпер ісьці да Хрыста.

Хрысьціянін, які цвёрда наважыў пераступіць цераз парог свайго самалюбства і гордасьці, ды дакараць сябе за ўсе свае правіны перад сьведкам ув асобе спавядальніка, па праўдзе каіцца перад Самым Госпадам Ісусам Хрыстом, які пралажыў нам гэту дарогу да Айца, узяўшы на Сябе ўсе нашы грахі праз Сваю сьмерць на Крыжы. І калі раскаяньне грэшніка шчырае, а сэрца яго гарыць жаданьнем выправіць усе свае грахі, тады Сам Госпад наш Ісус Хрыстос вуснамі духоўніка адпускае яму ўсе правіны, а душу яго выпаўняе радасьць і лёгкасьць нявымоўная...

Адпушчэньне грахоў – цуд з цудаў, містэрыя розуму недасяжная, довад нязьбіты, што Бог нятолькі Судзьдзя Нябесны, справядлівы,але перш за ўсё Бацька Добры, Якому бязьмежна люба дзіця Яго – чалавек. Таму Ен у бязьмежнай дабраце і шчодрасьці Сваей замацоўвае і завяршае Сваё дараваньне грэшніку правін Бацькоўскім падаркам-узнагародай – абяцаньнем вечнага жыцьця! Гэтым Ен, Усемагутны, падымае да вышыні Свае Велічы паўшага, мізэрнага чалавека – карону Свайго творства – спалучаецца з ім Сваёй Боскасьцю, усынаўляе, абажае, робіць яго Сваёй сялібай (ЯН,14,23).Такі недасяжны розуму сэнс раскаяньня сэрца людзкога, Ахвяры Хрыстовае на Крыжы і Таінства Эўхарыстыі. Сказаў бо Сам Збаўца наш: "хто есьць цела Маё і п'е Маю кроў, ува Мне ёсьць і Я ў ім"(Ян,6,56).

Абожанае сьв.Эўхарыстыяй сэрца чалавека становіцца ўмяшчальняй Ласкі Духа Сьвятога. Уложаны Богам у сэрца вугольчык усё болей і болей разгараецца агнём духоўным і робіць яго чуткім на адрозьненьне праўды ад грэху і хвальшу, даруючы яму гэтым здольнасьць і сілу да перамогі над пажаданьнямі грэшнага цела, ды ўпрыгожвае

яго дзівоснымі плёнамі гэтай ачышчаючай і ўзвышаючай Ласкі: любоўю, бязьмерным супакоем і радасьцю,доўгацярплівасьцю,дабратою, глыокай вераю, літасьцівасьцю,лагоднасьцю, устрыманасьцю. Такія плады сапраўднага хрысьціянскага духа.

Першаўобраз гэтае праўды знаходзім у сьв.Біблii Старога Запавету, у кнізе прарока Ісаі, дзе апісана велічнае бачаньне прарокам Уладара неба і зямлі,"седзячага на троне ўзвышаным" паміж небам і зямлёю. Шасьцікрылыя сэрафімы, што акружалі Госпада, усклікалі: "Сьвят, Сьвят, Сьвят Госпад Саваоф!Уся зямля поўна славы Тваей!" Ісая жахнуўся і ў сполаху ўсклікнуў:"Гора мне! Прапаў я, бо я чалавек з нячыстымі вуснамі, а вочы мае бачылі Цара, Гаспадара Сіл!" Тады да перапалоханага прарока прыляцеў адзін з сэрафімаў, трымаючы ў руцэ гарачы вуголь, які ён узяў клешчамі з аўтара. Ён датыкнуўся вуснаў прарока і сказаў:"Абач,вось гэта датыкнулася тваіх вуснаў і правіна твая забраная, а грэх твой прабачаны"(Іс.6,1-7).

У гэтым страшным Богазьяўленьні ці-ж ня бачым адпаведнасьці жару вугля з Божай Эўхарыстыяй? Згодна тлумачэньня нашых царкоўных песьняў, жар-вугаль ёсьць праўобразам Госпада нашага Ісуса Хрыста, а клешчы – рукі Прасьвятой Багародзіцы. Той жар-вугаль і зрабіў ачышчальнае ўзьдзеяньне на вялікага прарока: у гэны момант Дух Божы зыйшоў на праведпіка,перадаючы яму шматлікія дары Ласкі Божае, якія пазьней выдатна выявіліся ў прадбачаньнях і прадказаньнях прарока пра Хрыста-Збаўцу настолькі поўных і ясных, што сьв.Ісаі было справядліва прысвоена Айцамі Царквы званьне "старазапаветнага евангеліста".

Рыхтуючыся да дабрадзейнага прыняцьця сьвятых Хрыстовых Дараў, сьв.Залатавусны так пра іх выслаўляецца: "Хай будзе мне вугаль Прасьвятога Твайго Цела і чэснае Тваё Крыві ўв асьвячаньне, і ў прасьвету, і на здароўе пакорнай маёй душы і целу: на аблягчэньне цяжару шматлікіх маіх пагрэхаў, на ахову ад усякае дыявальскае напасьці, на спыненьне і адагнаньне мае злое і спакусьлівае звычкі, на ўмярцьвеньне злых жаданьняў, на выкананьне Тваіх запаветаў, Боскае Тваё Ласкі, на ўваход у Тваё Царства".(Другая малітва перад Прычасьцем)

У сьвятле ўсяго сказанага, ці-ж трэба даказваць веліч карысьці і бязумоўны абавязак для кожнага хрысьціяніна часьцейшага карыстаньня збаўляючымі Таінствамі Пакаяньня і Прычасьця .Праваслаўны катэхізіс радзіць спавядацца найменш чатыры разы ў год – у кожны пост і ў дзень свайго ангела – а не раз у год, як у нас робяць. Гэта абсалютны мінімум на шляху да духовага прагрэсу.

Протапр.Васіль Кендыш



# ЗАХОДНЯЯ ЦАРКВА І БЕЛАРУСЫ

## Ідэйна-гістарычны агляд суадносін

Пётра Манькоўскі

*Рэфэрат чытаны на III Саборы Б.А.П.Ц.*
*ў Манчэстары, Англія, дня 27/V/1984 г.*

Здавалася-б што нам Беларусам да нейкіх прэтэнсіяў папаў Рымскіх на правадырства ўсімі хрысьціянскімі Цэрквамі і, вынікаючай з гэтага, экспансійнай палітыкі Ватыкану? Доўгі час і мне так здавалася, што ўсё гэта нас зусім не датычыць. Я зьмяніў свой погляд радыкальна, калі пачаў больш углыбляцца ў наша мінулае, бо аказалася, што палітыка Ватыкану запраўды была адным з галоўных фактараў нашай гісторыі.

Але ёсьць і другая прычына, чаму нам трэба тут сяньня заняцца гэтай тэмай: Вось мінула ўжо чатыры гады, як наша Сьв.Царква перажывае цяжкі крызыс, прычынены бязупыннымі атакамі сатанінскіх сіл на нашых людзей і на духавенства. У выніку тых атакаў цэлыя парахвіі падняліся на адкрыты бунт, а адзін з епіскапаў дапусьціўся такіх неверагодных праступкаў, што Сабор Епіскапаў быў змушаны пазбавіць яго сану і адлучыць ад Царквы. Гэта наша вялікае гора...

Паўстае адно важнае пытаньне: якое-ж становішча адносна гэтай нашай бяды занялі нашы браты-Беларусы рыма-каталікі? Ці хоць наспагадалі яны сваім праваслаўным суродзічам? Нажаль, нешта зусім ня чутно пра гэта... А можа занялі яны прынамся пазыцыі нэўтральнай бесстароннасьці ў гэтай далікатнай справе? І з гэтага боку, пакуль, поўная цішыня... Што-ж тады выходзіць? Ды выглядае, што ўсе пагалоўна нашы рыма-каталікі дружна апынуліся на баку бунтаўшчыкоў, адшчэпнікаў і развальшчыкаў Царквы Хрыстовае...

Выясьненьне гэтага дзіўнага факту простае: хоць усякаму ясна, што разгром нашае Сьв.Царквы пагражае няўхільным зьнішчэньнем усяго рэлігійнага, грамадзкага і навет палітычнага жыцьця беларускай эміграцыі, усё-ж Ватыкан, і яго вуніяцкія памочнікі, відавочна гэты разгром вітаюць..., бо ён ідзе па лініі ватыканскай палітыкі сусьветнай гегемоніі. Бачыце, наша Б.А.П.Ц. стала на дарозе... - дык-жа прэч з Ёю! Да сусьветнай гегемоніі хоць пры помачы самога сатаны...Мэта апраўдвае ўсе сродкі і спосабы - галоўны прынцып палітыкі ватыканскай, які яўна пярэчыць усяму, чаго навучыў нас Госпад наш Ісус Хрыстос і кідае глыбокі цень на таго, каму карціць звацца "вікарым Хрыста на зямлі"... Прыкра ўсё гэта казаць, але-ж нас кранаюць за жывое і таму ўважаю, што прыйшоў час пагаварыць з рыма-каталікамі па душах...

1.Што сабою прадстаўляе Заходняя Царква? Як Яна разьвівалася? Якім парадкам Яна пранікла да нас, Беларусаў? Каб належна адказаць на гэтыя пытаньні неабходна пачаць ад сьв. апосталаў.

Пасьля сьмерці на Крыжы Госпада і Спаса нашага Ісуса Хрыста ды Яго Уваскрасеньня на трэйці дзень, у межах Рымскай Імпэрыі заіс-

навала нятолькі новая дынамічная рэлігія,але і новая гістарыятворчая сіла. Цягам трох даўгіх вякоў нячуванага ў старажытнасьці рэлігійнага прасьледу Хрысьціянства прайшло слаўны шлях ад горстачкі запалоханых апосталаў, цераз нязьлічаныя тысячы-тысяч замучаных ахвяраў, да поўнага прызнаньня яго велічнае місіі на зямлі з боку тых, хто яго дасюль прасьледваў! Такой дэманстрацыі дзеяньня Сілы Боскай ды ў такіх маштабах чалавецтва яшчэ ня бачыла ніколі... Ды тут наглядаем адзін моцна цікавы, але разам і трывожны парадокс: чамусьці ў час найгоршага прасьледу і вялікіх выпрабаваньняў Хрысьціянства расло, як на дражджах, і мацавалася. Калі-ж вораг урэшце пабачыў сваё бясьсільле, калі пазьней прышло поўнае прызнаньне і шчодрая апека дзяржавы, Хрысьціянства пачало відучы псавацца... Яно пачало абрастаць жырам – прышлі прывілегіі і багацьце, а незабавам пачаліся і звадкі за ўплывы, ды ўрэшце і за ўладу...

Праўда ў гэтым апошнім кантэксьце,г.зн. пагоні за ўладай, хрысьціянскі Ўсход і Захад пашлі кажны сваім асобным шляхам з прычын у корані рознай канфігурацыі гістарыятворчых сіл. Важную ролю сыграў тут факт, што прызнаньне хрысьціянскага веравызнаньня Рымскай дзяржавай супала ў часе з пераносам сталіцы Імпэрыі са старажытнага Рыму ў новазаснаваны Канстантынопаль. У Новым Рыме патрыярхі ад самага пачатку падпалі пад дамінуючы ўплыў імпэратараў і ўжо да канца не змаглі з-пад яго вызваліцца – нажаль такі быў пастулят жыцьця, фізычнага існаваньня людзей і Царквы. Праява гэта вядомая ў гісторыі як "цэзарапапізм" і праявілася яна так на Ўсходзе,як і на Захадзе. Праўда, папы мелі больш магчымасьці адстойваць сваю незалежнасьць ад манархаў, а навет процістаўіць ім свой "папацэзарызм",але вынікі былі нятрывалыя ды, што важней, навет шкодныя для Царквы. /Пра гэта больш ніжэй/ Усходнія імпэратары, трэба ім гэта прызнаць, за малымі выняткамі захоўвалі дагматычную чысьціню Праваслаўнай веры і не парушалі кананічных асноваў Царквы.

У старым Рыме стварылася зусім іншая сытуацыя: ад'езд імпэратара і яго двара аставіў тут пустое месца, якое і пасьпяшыў выпаўніць папа – адзіны высокі саноўнік, што астаўся ў "вечным горадзе". А часы былі тады дужа неспакойныя. Пры бясконцых войнах і грабяжох, якім колькі разова падпаў і Рым, ув атмасфэры поўнага бязуладзьдзя, Царква аказалася адзіным асяродкам стабільнасьці і бясьпекі. Таму ня дзіва, што да Яе гарнуўся нятолькі просты люд – Яе шчыра падтрымоўвалі ды шчодра дарылі і вышэйшыя клясы грамадзтва.Усё гэта папы умела выкарысталі і з часам становяцца ўладальнікамі значнай тэрыторыі вакол Рыму ды далей на поўнач. Стаўшыся такім парадкам сьвецкімі ўладарамі, папы пашлі крок далей у сваей пагоні за атрыбутамі ўлады: яны прыдумалі тэорыю, якая кажа, што паколькі папу падлягаюць усе асобы духоўныя, яму павінны пакарыцца і ўсе сьвецкія князі, каралі і навет сам імпэратар. Гэта і ёсьць г.зв."папацэзарызм" – прынцып дыямэтральна супярэчны з Навукай Хрыстовай, дзе не знаходзім найменшага намёку на патрэбу вывышэньня царкоўнае ўлады па-над сьвецкую.

Прайшлі сталецьці, пакуль папам давялося, хоць і на коратка,дабіцца свайго. Важнай вехай у гісторыі папства стаў год 800 н.э.,калі папа Леў III заклікаў быў у Рым караля Франкаў Карла Вялікага (Шарлманя), каб памог суняць лякальны бунт супроць папы. Карл падасьпеў



на час, разагнаў натоўп, а ўдзячны папа запрасіў яго на ўрачыстую Божую Службу ў чэсьць Хрыстовага Нараджэньня, бо быў час Калядаў. На Багаслужбе той сталася рэч нечаканая: пад яе канец папа раптам прыпадняў залатую карону і надзеў яе на галаву Карлу, а ўвесь падвучаны клер і народ тут-жа абвесьціў яго "імпэратарам сьвятой Рымскай Імпэрыі"... Спрытны акт гэны сыграў у гісторыі Заходняй эўропы вялікую ролю. Цераз яго папа паказаў сьвету,што толькі ён можа каранаваць і надаваць тытул "імпэратара" ўладарам Заходняй Эўропы – вядома, усходне-рымскія імпэратары ад яго зусім не залежалі. Вось такімі штукамі папы здолелі здабыць сабе вялікі ўплыў на манархаў Захаду і прэстыж папскага пасаду ўзрос непамерна. Са свайго боку Карл Вялікі, зразу заскочаны папскай ініцыятывай, хутка перакānаўся, што тытул імпэратара дужа аблягчыў яму справу падпарадкаваньня сваей уладзе іншых эўрапэйскіх манархаў. Фактычна ў яго асобе часова была адрадзіўшыся занепаўшая заходняя частка старой Рымскай Імпэрыі.

2. Калі-ж гэтанашыя продкі першы раз сутыкнуліся з Заходняй Царквою? Факты гісторыі паказваюць, што мусіла гэта здарыцца вельмі рана на гістарычнай шкалі часу – недзе ў канцы 8-га ст., г.зн. якраз за часоў таго-ж Карла Вялікага. Нашы продкі жылі тады, між іншым, уздоўж ніжняй Лабы, сяньня паўночная Нямеччына. У старых хроніках Захаду яны выступаюць пад рознымі імёнамі, якія дасюль належна не расшыфраваныя і інтэрпрэтуюцца гісторыкамі зусім адвольна ды амаль заўсёды хвальшыва. Адсюль і наша гістарыяграфія пра іх блізу што нічога ня ведае.

Карл Вялікі зрабіў Славянам адну вялікую паслугу – ён разьбіў і дашчэнту вынішчыў Авараў, якія асеўшы ў даліне Дунаю працягам двух вякоў бязьлітасна зьдзекаваліся над славянскім жыхарствам краю, часта нападаючы і на суседнія дзяржавы. На доўгія вякі за свой чын Карл праслыў героем сярод Славян – ад яго імя пачалі яны зваць сваіх манархаў "каралямі".

Заходняя Царква ў Карлавай дзяржаве мела ўжо вялікую сілу. Паколькі адукаванымі асобамі таго часу былі толькі духоўнікі – сам Карл быў амаль бязграматны – уся адміністрацыя дзяржавы апынулася ў руках царкоўнікаў. Епіскапы нятолькі адміністравалі цэлымі правінцыямі, але часта вадзілі арміі на вайну і асабіста бралі ўдзел у бітвах... Так разьвілася была на Захадзе цесная супольнасьць інтарэсаў паміж Царквою і дзяржавай, якая бязумоўна ішла па лініі ўзмацненьня "папацэзарызму", бо пры поўнай ляяльнасьці духавенства да папы (што, праўда, не заўсёды мела месца), гэты апошні мог у любы мамэнт адмысловай булай спаралiжаваць увесь адміністрацыйны апарат дзяржавы і так змусіць імпэратара да ўступкаў, і гэта рабілася...

З самым Карлам Вялікім Славяне яшчэ сяк-так ладзілі, хоць і прагнаў ён іх за Лабу з Саксоніі (дзе славянскія рэшткі ўсё-ж захаваліся аж да 18-га ст.!) і ўстанавіў мяжу славянскай аселасьці па рэках Лабе і Салі. Але пасьля гэтага ён аставіў Славян у супакоі . Вось гэта і не падабалася заходнім царкоўнікам, якія казалі яму,а яшчэ больш яго наступнікам, што вось па той бок Лабы жыве мноства душ,якія трэба спасьці, навярнуўшы іх на хрысьціянскую веру– хочуць яны гэтага, ці ня хочуць... А над тымі, хто будзе супраціўляцца, Царква дазваляе рашучую расправу – пазбаўленьне зямлі і ўсяе маёмасьці, а навет і жыцьця, калі супраціў ёсьць збройны.

Такім незамыслаславатым парадкам землі Заходніх Славянаў сталіся крыніцай лёгкай нажывы для ўсіх — для авантурнікаў усякай масьці, для заходніх царкоўнікаў і для франка-нямецкай дзяржавы. У першы раз у гісторыі Хрысьціянства сустракаемся тут з паняцьцем і з практыкай *насільнага хрышчэньня* людзей і місійнай акцыі агнём ды мячом — усё жыўцом перанята заходне-царкоўнікамі ад мусульманаў... Найперш гэты варварскі мэтад быў выпрабаваны на Саксах, якіх гвалтам ахрысьцілі пасьля зламаньня іх звыш 30-цілетняга супраціву (ім увесь час памагалі Славяне); іх шмат перабілі, часткава перасялілі на поўдзень. Хоць не адзін раз яшчэ парываліся яны на паўстаньні, у канцы усё-ж Хрысьціянства сярод іх прынялося. Тады было пастаноўлена тым-жа спосабам абсалютнага прымусу наварачваць і Славянаў. На Усходзе гэты варварскі спосаб пашыраньня веры ў Хрыста зусім невядомы. Пры ўсім гэтым Заходняя Царква зусім сьведама апынулася на ўслугах нямецкага шавінізму, які ў насільнай хрысьціянізацыі ўбачыў зручную нагоду павялічыць дзяржаву коштам нявыгадных і ненавісных суседзяў.

Нельга сказаць, каб Заходняя Царква зусім не пасылала сваіх мірных прапаведнікаў на славянскую тэрыторыю, але вынікі тых місіяў былі жалю годныя... На гэта былі свае прычыны. Па-першае, Славяне былі глыбока прывязаныя да веры сваіх прадзедаў — пра якую мы так жудка мала ведаем... — як і да свае старавечнае мовы ды культуры, бо новая рэлігія падавалася ім у нямецка-лацінскай форме і яе прыняцьце няўхільна вяло да анямечаньня. Па-другое, іх да жывога абуралі мэтады гвалту, якімі карысталіся заходнія "місіянэры": што варта рэлігія, пыталіся яны, якая дзеля свайго пашырэньня ня можа палягаць на сілу свае духоўнае праўды, а мусіць наводзіць страх на людзей агнём і мячом? Як бачым, у іхным ваччу Хрысьціянства было безнадзейна скампрамітаваным...

Тым ня менш заходне-царкоўнікі ўважалі мэтад збройнага падбою ўв адносінах да Славянаў за адзіна эфэктыўны і ішлі бясконцыя войны са славянствам, якое ставіла зацяты адпор насільлю. Урэшце ў 1008 г. паўстае першая ідэя анты-славянскага крыжовага паходу! Праўда, тады не змагла яшчэ яна ажыцьцявіцца, бо пад тую пару Славяне на захадзе былі яшчэ замоцныя і іх проста баяліся...Наагул трэба ведаць, што ў тыя часы паўночна-заходнія Славяне, у тым ліку і нашыя продкі, хоць і моцна парозьненыя міжсобку, у сэнсе культуры сталі на галаву вышэй за ўсіх нядаўна ахрышчаных учарашніх варвараў, як Франкі, Немцы і інш.. А ў ваеннай справе адзіным, хто іх быў пакарыўшы, быў Карл Вялікі. Пасьля яго на доўгі час яны заставілі ўсіх лічыцца з сабою, а на моры — Балтыйскім, Паўночным і далей — яны доўга яшчэ наводзілі страх на ўсіх: усе тыя слаўныя Вікінгі былі ня кім іншым, як тымі-ж Славянамі. Адным з галоўных вікінскіх правадыроў быў шырака ведамы на Захадзе князь Рорык, які эміграваў на Ўсход і даў тут пачатак дынастыі Рурыкавічаў.

Усё-ж людзкая варожасьць і бясконцыя войны ўрэшце пераканалі Славян, што для іх няма будучыні на Захадзе і яны больш і больш пачалі падавацца на Ўсход. Той сталы адплыў людзей на ўсход, які наглядаем ужо ў IX-ым ст., памяншаў сілы тых, што асталіся. Немцы гэта бачылі: роўна 100 гадоў пасьля першага няўдалага кліча нямецкія епіскапы ўзнавілі ў 1108 г. сваю агітацыю за анты-славянскую крыцыяту, але і гэтым разам іхныя натугі асталіся бяз выніку — паход не адбыўся. І толькі 40 год пазьней, у 1147 г., удаецца ім зарганізаваць крыжовы паход заходняга рыцарства супроць славянскіх рэшткаў, што яшчэ не пакінулі зямлі продкаў. У сваім звароце да рыцарства епіскапы пісалі: "Пагане, гэта найгоршыя з людзей, але зямля іхняя багатая на мяса, мёд, муку, птушак..." На такую прынаду сабралася каля 100 тысяч ахвотнікаў — у паходзе прынялі ганебны ўдзел Палякі і Чэхі. Славянскія недабіткі кідаліся на ўцёкі ў Памэранію, або ў Дапію. Так дабягала свайго сумнага канца доўгавяковая эпапэя славянства на "далёкім" эўрапэйскім Захадзе, хоць анямечаньню яны тут яшчэ будуць вякамі ставіць адпор. А з таго, што нам ведама, зусім ясна, што той крыжовы паход заходніх епіскапаў супроць Славянаў мала памог справе іхняе хрысьціянізацыі: шмат нявіннай крыві было праліта, шмат паробленa спусташэньняў, шмат разрабавана, але бадай ніхто ня быў ахрышчаны... Паход гэны, як ня трэба лепш, паказаў сьвету запраўдны твар Заходняй Царквы.

3. Пераходзім да разгляду ролі Заходняй Царквы ў гісторыі Літвы. Эмігранты з Захаду сьпярша сяліліся ў Памэраніі і ў Прусіі, а калі Немцы і тут пачыналі іх трывожыць, перасяляліся далей на землі сяньняшняй Заходняй Беларусі, якая таму ўжо з XI-га ст. пачала звацца Літвою — гэта ад стсл *селітва*, месца пасяленьня. Яны тут супыняліся і асядалі на сталае пасяленьне, але заўсёды трымаліся ў поўнай ваеннай гатоўнасьці, не спадзяючыся, што заходнія крывадушнікі пакінуць іх тут у супакоі. І гэта хутка спраўдзілася, бо ўжо ў 1202 годзе папа Інакент III засноўвае ў суседняй Лівоніі Ордэн Рыцараў-Мечаносцаў, адкуль ён меў весьці акцыю хрысьціянізацыі паганаў. Цікава, ці Хрыстос калі прадбачыў, што веру ў Яго будуць некалі пашыраць мечаносцы?...Крыху пазьней, у 1226 г., князь мазавецкі Канрад, занепакоены ўсіленьнем збройных набегаў на яго землі з тэрыторыі Ўсходняе Прусіі, кліча на помач Немцаў з Ордэну Крыжаносцаў (афіцыйна — Ордэн Рыцараў сьв.Дзевы Марыі), надзяляе іх зямлёю і дае ім права да падбою Усх.Прусіі пад умовай ахрышчэньня яе жыхарства. Выглядае, што ў гісторыі Палякі заўсёды знаходзілі сабе нямецкую апеку, толькі-ж дорага прышлося ім за яе плаціць... А Немцы, як Немцы — рады старацца: неадкладна прыступаюць да справы і атакуюць перасяленцаў, а тыя ў паніцы кідаюцца на ўцёкі — далей на ўсход! Гэта, бадай, была апошняя хваля перасяленцаў з захаду на нашыя землі.

Пад ціскам гэтых злавесных падзеяў рассвараныя князі літоўскія (слова гэта ўжываецца тут у яго гістарычным значэньні толькі, якое ня мае нічога супольнага з сучаснымі прэтэнсіямі да яго Жамойдцаў, якія да Літвы ўласьцівай не належалі) даходзяць неяк да згоды і падпарадкаваньня аднаму з-паміж сябе, Міндоўгу, які прымае тытул вялікага князя літоўскага. І так, недзе ў пачатку 30-тых гадоў 13-га ст., на землях Заходняй Беларусі паўстае зусім новая дзяржава, Вялікае Княства Літоўскае, першай сталіцай якое стае ў 1235 г. наш стары Наваградак. І тут сталася нешта нечаканае: гэта нованароджанае немаўля хутка паказала сябе куды сільнейшым за ўсе здаўна ведамыя княствы і дзяржаўныя цэнтры Ўсходняй Эўропы! Ужо ў 1236 г. пад Шаўлямі, на Жамойдзі, Міндоўг ушчэнт разьбівае Мечаносцаў: згінуў сам вялікі майстар Ордэну і ўсе яго рыцары. На гэтым Інфлянцкі Ордэн і закончыў сваё кароткае існаваньне. Хутка прышло найбольшае выпра-




© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

баваньне маладой дзяржавы – татарская навала. У 1249 г. хан Койдан атакуе сталічны горад і разбурае наваградзкі замак. Але калі Татары павярнулі далей у глыб дзяржавы, іх нагнаў Міндоўг і ў крывавым баі атрымаў над імі поўную перамогу – ці ня першую перамогу над Татарамі у Эўропе. Места, дзе гэта сталася, з таго часу пачалі зваць Койданавам (сяньня – Дзяржынск...). Так Літва стала адзінай дзяржавай Усходняй Эўропы вольнай ад татарскага іга-нявол. Запраўды вялізарнае дасягненьне. Таму ня дзіва, што штораз новыя землі і княствы стараюцца далучыцца да Літвы пад яе мілітарную ахову: за нейкіх 130 гадоў з вельмі-ж скромных пачаткаў Літва разраслася да памераў імпэрыі ад мора да мора...

За ўсім гэтым зырка сачылі высланьнікі Ватыкану. Ім хутка стала ясна, што гэтых Ліцьвіноў голымі рукамі ня возьмеш...Пачынаюцца дыпляматычныя ходы: міласьціва папа прысылае в.кн.Міндоўгу свой пратэкцыйны ліст і ў дадатак карону..., якой пасьля ахрышчэньня ў лацінскім абрадзе Міндоўг і быў каранаваны на караля Літвы! Толькі-ж хрышчэньне робленае на сьпех, вышла людзям на сьмех..., як гэта кажуць у нас: кароль павярнуў назад у паганства, але карону затрымаў сабе і тытулу ня зрокся. Так папскі трык прагарэў, ня даўшы спадзяваных вынікаў. А тымчасам па ўсёй Літве ціха вялася руплівая місійная праца нашай Праваслаўнай Царквы, што пачалася была ў Полаччыне і Віцебшчыне яшчэ з 10-га ст. – бяз трыкаў і бяз гвалту. Ведаем, што ўжо сын Міндоўга, хутка пасьля бацькавай каранацыі і няшчырага хрышчэньня, сам ахрысьціўся і стаў праваслаўным манахам. Праўда, іншыя князі на доўга яшчэ асталіся ў паганстве.

Доўгія гады лацiньнікі ня мелі ніякага прыступу да Літвы (рабіліся няўдалыя спробы за Гедыміна), але ўканцы т'кі знайшлі спосаб. Цяпер узяліся ўслужыць Ватыкану, а найбольш сабе, Палякі, якім урэшце расчыніліся вочы на тое, што Немцы сваім падбоем Прусаў Усходніх стварылі сур'ёзную пагрозу існаваньню самой Польшчы. А паколькі Паляком не ставала ні сіл. ні адвагі да змаганьня з Немцамі. яны пачалі шукаць саюзу з Літвою, якая ўжо паказала сваю сілу. Прытым яны выпрацавалі хітры плян, каб за-адно забіць двух зайцаў – здабыць сабе надзейнага саюзьніка супроць Немцаў і адначасна кантрабандай насадзіць у Літве лацінізм. Гледзячы з 600-летняй гістарычнай пэрспэктывы мусім прызнаць, нажаль, што плян той Паляком удаўся на 100% і ўсё дзякуючы толькі аднаму чалавеку – в.кн. Ягайле...

Называць Ягайлу вялікім палітыкам-стратэгам эўрапэйскага маштабу, як гэта ў нас часам чуваць, гэта дэманстраваць сваю палітычную сьлепату і безадказнасьць. Паквапіўшыся на польскую карону і на маладую каралеву, Ягайла ў Крэве (1385 г.) згадзіўся даслоўна на ўсе патрабаваньні Палякоў: без ніякіх засьцярогаў далучыў ён "землі Літвы і Русі" да Польшчы і насьцеж расчыніў дзьверы лацінскім і польскім уплывам на літоўскую грамадзкасьць – і то пачынаючы з самага вяршка... Бо самай ганебнай была яго згода на перахрышчэньне сябе, усяго роду Альгердавічаў ды іншых княжацкіх і магнацкіх праваслаўных радоў, у лацінскім абрадзе. Я бачу тры галоўныя прычыны таго жудкага ўчынку Ягайлы: апрача ўжо згаданай прынады ў форме кароны і маладой каралевы, другой быў факт, што ў Літве ўласьцівай праваслаўныя традыцыі не пасьпелі былі яшчэ замацавацца – хоць, з другога боку, ведаем, што Ягайла жывучы ў Кракаве меў сабе на Вавэлі



праваслаўную капліцу і, як доўга жыў, слухаў літургіі у славянскім абрадзе. Але, як відаць, ён адзін толькі мог сабе на гэта пазволіць... Урэшце трэйцяй і найважнейшай прычынай былі духоўнікі-лацiньнікі: ведаем, што Мідоўг, пасьля сваё зрады папе, крываваа з імі расправіўся – жылі яшчэ ў яго памяці жудкія дазнаньні Захаду... Але ўжо Гедымін пішучы да папы хваліўся, што ў яго пры двары ёсьць францішкане і іншыя лацiньнікі, якім ён даў поўную свабоду выконваць свае абрады. Вось тыя лацiньнікі ды дадзеная ім свабода і падкапалі аўтарытэт Праваслаўя ў князёўскім асяродзьдзі. Бо калі праваслаўныя заўсёды ўважалі ўсякую агітацыю супроць служыцеляў лацінскага абраду за рэч неэтычную і ад яе ўстрымоўваюцца, духоўнікі-лацiньнікі да праваслаўных сваіх калегаў такіх засьцярогаў ніколі ня мелі... Наадварот, у імя свайго анты-хрысьціянскага прынцыпу "мэта апраўдвае ўсе сродкі", яны ўважаюць усякае змаганьне супроць Праваслаўя за этычнае, а нават лічаць яго сваім абавязкам... Яшчэ адна ягадка з калекцыі лацінскіх ерасяў. Ня цяжка сабе ўявіць, што такія "госьці" пры двары князя могуць нарабіць за якіх 50 гадоў... Вось вам выясьненьне, чаму раптам унукі цалкам забыліся, чаго ўцякалі з роднага Захаду іхныя дзяды ды як яны там цярпелі ад "місійных" зьдзекаў заходніх царкоўнікаў. Тут і выясьненьне крутога павароту літоўскіх князёў і магнатаў супроць Праваслаўнай рэлігіі. Ужо Вітаўт, пішучы да Сабору Праваслаўных Епіскапаў, уважаў за патрэбнае адзначыць, што ён рэлігіі"іншае" ад іхняй... Бачыце, як ён разумеў розьніцу між абрадамі – іншая рэлігія! Сам ён гэтага не прыдумаў. Увялі яму гэта ў вушы тыя самыя ілгуны,хто вось ужо больш як 900 гадоў абзывае Праваслаўе "схізмай", калі па праўдзе ў схізьме ёсьць сама Рымская Царква...

Пасьля 1385 г. лацiньнікі сталі дараднікамі, сакратарамі і спаведнікамі нашых князёў і якое дзіва, што тыя хутка перасталі быць нашымі...У Раду Паноў пры вялікім князі ўвайшлі два лацінскія біскупы – віленскі і жамойдзкі – ніводзін праваслаўны епіскап ня меў такога права. Усе лацiньнікі сталі хутка палячыцца і незабавам апынуліся чужым элемэнтам у сваім уласным грамадзтве. Так апалячыліся амаль усе нашы князі і магнаты. Ды хвароба шпарка пашыралася: у 1387 г. Ягайла выдае першы прывілей, якім значна пашыраў правы літоўскага баярства, што перайшло ў лацінства, на валоданьне зямлёю і звольніў яго ад некаторых павіннасьцей натурай. Далей, актам у Гародле 1413г. высокія дзяржаўныя пасады гарантаваліся толькі лацiньнікам, а польская шляхта давала свае гербы тым баярам літоўскім, хто пяройдзе на лацінства. Так уцягвалася ў лаціна-палянізацыйную машыну і баярства Літвы.

Такім, зусім не прыпадковым, парадкам лацінства апанавала адміністрацыю Літвы, пакуль-што ўласьцівай толькі і Жамойдзі,хутка пашыраючыся сярод вышэйшай і сярэдняй клясаў грамадзтва.Някранутым асталося толькі мяшчанства і сялянства, якое што-раз глыбей вязла ў прыгоннай залежнасьці. Тут заходне-царкоўнікі пакуль аказаліся бясьсільнымі. Народ быў шчыра і глыбока прывязаны да свае Царквы, да славянскага абраду, да спрадвечных традыцыяў, якія арганічна зрасьліся з прыродай. Але ўрэшце і тут Палякі прыдумалі раду: ужо Ягайла і Вітаўт, зусім забыўшыся на ідэі сваіх вялікіх папярэднікаў, Гедыміна і Альгерда, якія хоць і не-хрысьціяне былі, а вялі правільную палітыку ўтрыманьня незалежнай ад Масквы Літоўскай Мітра-

поліі, пачынаюць заігрываць з ідэяй Царкоўнай Вуніі і навет пробуюць прымушаць нашых герархаў да прызнаньня Рыму – гэты націск асабліва ўзмацніўся пасьля ўпадку Канстантынопаля ў 1453 г. Ведаем, што з часам гэны націск давёў да Берасьцейскай Вуніі і ўсіх тых пакутаў, якія яна прынясла нашаму народу. Нажаль, ня можам тут сяньня заняцца гэтай справай шырэй. Адзначым толькі, што і тут Палякі ня спалі ў шапку. Яны хутка прыбралі Вуніяцкую Царкву да сваіх рук і зрабілі з Яе новы інструмант палянізацыі Беларусаў. А колькі народ наш працярпеў, колькі нацыянальнай субстанцыі страцілі мы пры ліквідацыі Вуніі Масквою ў 1839 г. і пазьней?

Паколькі гэты вунійны кашмар усё яшчэ вісіць у паветры, а яго адэпты апошнімі гадамі адкрыта абʼявіліся на баку ворагаў нашай Сьвятой Царквы, уважаю, што прыйшоў час глянуць на рымскую веру і на ўсю "рымскую афэру" з гледзішча шырэйшага, гістарычнага і ідэйнага, каб усім стала яснай сутнасьць справы і нашага становішча.

4. Пачнем ад разгляду папскіх прэтэнсіяў – скуль яны браліся і на чым базуюцца? Галоўных кветак папскага міту ёсьць дзьве:

1. Прэтэнсіі да ўзначаленьня Сусьветнай (Усяленскай) Царквы Хрыстовай і да "вікарыяту Хрыста на зямлі";
2. Прэтэнсіі да беспамылковасьці папаў у пытаньнях веры і маралі, калі яны гавораць "экс катэдра".

*Да пункту 1-га:* Галоўным спосабам, які ад самага пачатку вырабіла сабе Царква Хрыстовая дзеля эфэктыўнай абароны ад ерасяў і злоўжываньняў уладай, стаў г.зв. *прынцып саборнасьці,* у якім знайшла сваё выражэньне аснаўная праўда, што кажны епіскап ёсьць адказны за свае паводзіны і дзеяньні перад сваімі калегамі – перад епіскапамі акругі, цэлага краю, ці навет усяе Царквы Хрыстовае. Прынцып гэты быў пераняты ад сьв.апосталаў, а ім ён дастаўся ад Госпада Ісуса Хрыста /гл.Мацв.18,15-17/. Ён дасюль у поўнай сіле ў Цэрквах Усходніх, Праваслаўных. Папа рымскі, нажаль, ухітрыўся з-пад яго вырвацца, апынуўшыся так у дэ факто схізьме з іншымі Цэрквамі.

Царкву Хрыстовую ў Рыме заснавалі два апосталы – Пётра і Паўла. Але папы ўважалі за карыснае для сябе зусім затушаваць ролю ап.Паўлы, якая не магла быць меншай за ролю ап.Пятра, з увагі на Паўлава дазнаньне і асьвету – ён-жа напісаў і асобнае пасланьне "Да Рымлянаў", адно з 14-ці! Узвышаючы ролю ап.Пятра папы разважалі прыблізна так: ап.Пётра – галава ўсіх апосталаў; папа рымскі – пераемнік ап.Пятра; адсюль ужо само выходзіць, што папа – галава ўсяе Царквы Хрыстовае! Праўда, у Рыме крыху забыліся, што раней чымся адправіцца ў Рым ап.Пётра, ізноў-жа на супалку з Паўлам, заснаваў Царкву у Антыяхіі ды магчыма іншыя – але гэты факт зусім не перашкодзіў папам абвесьціць сябе адзінымі пераемнікамі сьв.Пятра.

Прымат ап.Пятра сярод апосталаў папы базуюць на словах Ісуса Хрыста:"І Я кажу табе: ты – Пётра /гр.пэтра,скала/,і на гэтай скале Я збудую Царкву Маю, і вароты пякельныя не адоляць Яе. І дам табе ключы Царства Нябеснага; і што зьвяжаш на зямлі, тое будзе зьвязана на Небе, і што разьвяжаш на зямлі, тое будзе разьвязана на Небе" /Мацв.16,18-19/. Але ўжо пару радкоў далей той-жа евангеліст падае іншыя словы Госпада:"Ён-жа зьвярнуўшыся, сказаў Пятру: адыйдзі ад Мяне, сатана! ты мне спакуса, бо думаеш не пра тое, што Божае, але што чалавечае"/Мацв.16,23/. У сьвятле гэтых двух дыямэтральна супярэчных выказваньняў Госпада, як разумець тыя словы пра Пятра-скалу і Царкву?



Адно пэўна, што Хрыстос не сказаў Пятру будаваць Царкву – "Я збудую Царкву Маю..." кажа Ён. Таксама,Хрыстос ня кажа Пятру ўзначаліць і весьці Царкву,бо ня ў гэтым роля каменя-скалы. Хрыстос толькі кажа Пятру быць той скалой, на якой Царква ўстоіць вякі, г.зн. Ён *дамагаецца* ад Пятра веры цьвёрдай, як скала! – і ў гэтым, як ведаем, у час вялікай небясьпекі Пётра падвёў Хрыста (які ўсё гэта прадбачыў) адрокшыся ад Яго тры разы... А пасьля Ўваскрасеньня, калі зьявіўся апосталам, Хрыстос як-бы выкідаючы Пятру яго слабасьць тры разы спытаўся "Ці любіш Мяне?" і тры разы папрасіў Пятра "Пасі авечкі Мае"/Ян21,15-17/, а пазьней даў яму загад "Ідзі за Мною!"/Ян 19,22/. Хрыстос не сказаў Пятру "Кіруй Маёй Царквою", або "Будзь Маім намесьнікам на зямлі". Не, Ён адно прасіў Пятра, каб пасьвіў авечкі Яго ды ішоў за Ім, г.зн. за Гаспадаром і Кіраўнікам!

З усяго гэтага вынікае нязьбіта, што для Ісуса Хрыста найважнейшая справа – Вера: будуе Ён Царкву Сваю на скале-Веры, не на чалавеку-Пятру! Калі Ён пытаўся ў Пятра "Ці любіш Мяне?", дык гэта толькі далікатная форма пытаньня – "Ці цяпер верыш у Мяне пасьля ўсяго, што сталася?" А калі Гасподзь загадвае Пятру "Ідзі за Мною!", гэта ізноў азначае "Вер у Мяне да канца!" Так-жа трэба разумець і словы Госпаднія – "Ідам табе ключы Царства Нябеснага..." Вера, ня што іншае, ёсьць тымі "ключамі", г.зн. Хрыстос абяцае – "Дам табе Веру моцную, што калі зьвяжаш што тут, тое будзе зьвязана і там, на Небе". Ды "ключы" тыя, тую Веру вялікую цераз Духа Сьвятога даў Ён не аднаму Пятру, а і ўсім іншым апосталам /Ян 20,22-23/. Вось так выглядае справа таго пяршынства ап.Пятра сярод іншых апосталаў – запраўды цяжка яго бачыць...

Але паслухайма, што сказаў сам Госпад на тэму таго пяршынства: (апосталы)"разважалі між сабою, хто большы. І,сеўшы, паклікаў дванаццацёх і сказаў ім: калі хто хоча першым быць, будзь з усіх апошнім і для ўсіх слугою"/Марк 9,34-35/, і далей – "Ісус, прыклікаўшы іх, сказаў ім: ведаеце, што тыя, якія лічацца князямі народаў, пануюць над народамі, і вялікія валодаюць імі; у вас-жа хай будзе ня так: калі хто хоча стацца вялікшым між вамі, няхай будзе вам служкаю, і хто хоча стацца першым між вамі, хай будзе слугою ўсіх. Бо і Сын Чалавечы прыйшоў не каб Яму служылі, але каб паслужыць і аддаць душу Сваю на выкупленьне многіх"/Марк 10,42-45/. Вось якім бачыў Сам Хрыстос таго "першага" сярод апосталаў: слугою, не атаманам! Таму не кіраваць другімі, не загадваць, а служыць ім! Бо і Сам Госпад ня меў і ценю прэтэнсіі да панаваньня на зямлі. Відаць такім сябе бачыў і сам ап.Пётра, бо як доўга жыў ніколі і нідзе не абʼявіў сябе першым, ці вышэйшым за другіх апосталаў. На адзіным вядомым нам саборы апосталаў у Ерусаліме ў 51 г. старшынёю быў сьв.Якаў, брат Госпадні. І Айцы Царквы першых шасьці вякоў зусім маўчаць пра "начальства" Пятра над іншымі апосталамі. Маўчаць пра гэта і ўсе сем Усяленскіх Сабораў. І так, калі-б навет і прыняць, што папы рымскія ёсьць нейкімі спадкаемцамі ап.Пятра, нажаль спадак зусім ня існуе... а папскія прэтэнсіі на правадырства ў Царкве Хрыстовай ёсьць беспадстаўная выдумка-ерась.

І запраўды, ці мог дзяліць паміж апосталаў уладу зямную Той, Хто

сказаў, што Царства Яго "ня з гэтага сьвету..." Ды ўрэшце, якога-ж "вікарыя" на гэтым сьвеце патрабуе Ён, Тварэц і Гаспадар усяму, Які сказаў, што будзе з намі *асабіста* "ува ўсе дні да сканчэньня веку..." /Мацв.28,20/.

*Да пункту 2-га:* Як ня дзіўна, але свае прэтэнсіі на беспамылковасьць папы рымскія базуюць на тэксьце евангеліста Лукі/22,31-32/: "І сказаў Господ: Сымон! Гэта сатана прасіў, каб прасейваць вас, як пшаніцу. Але Я маліўся за цябе, каб не аслабла вера твая; і ты некалі, навярнуўшыся, умацуй братоў тваіх". Вось у гэтых словах Ісуса папы ўбачылі Яго абяцаньне беспамылковасьці ўсіх папаў рымскіх у іх адносінах з вернікамі. Прыходзіцца толькі дзівіцца людзкой вынаходлівасьці. А што ў запраўднасьці Хрыстос меў тут на ўвазе, ясна відаць з далейшага тэксту таго-ж евангеліста /33-34/: "Той-жа (г.зн.Сымон) адказаў Яму: Господзе! З Табою я гатоўісьці і ў вязьніцу і на сьмерць! Але Ён сказаў: Кажу табе, Пётра, не прапяе певень сягоньня, як ты тройчы адрачэшся, што мяне ведаеш". Вось якой бачыў тую Пётраву беспамылковасьць Сам Господ наш Ісус Хрыстос.

Вучэньне пра беспамылковасьць папаў рымскіх, як усякая спроба абагаўленьня чалавека – яшчэ адна рымская ерась. Як паказана вышэй, яго нельга вывесьці ад Пятра, які сам памыляўся. А як блудзілі папы самі? Прыкладаў хапае: у 358 г. папа Лібэрый пацьвердзіў Арыянскую ерась; у 417 г. папа Зосіма пацьвердзіў ерась, якая адкідала першародны грэх; у 625 г. п.Ганорый сам пашыраў ерась манатэліцтва, і т.д.. Але ня гледзячы на ўсю абсурднасьць тэзы папскай беспамылковасьці яна лягла ўв аснову палітычных прэтэнсіяў папства: папы рымскія лятуцелі пра падпарадкаваньне сабе ўсіх царстваў сьвету! Була папы Баніфацыя VIII "Унам Санктам..." з 1302 г.дае папам права скідаць з трону манархаў, мяняць законы, вырашаць пытаньні вайны і міру, і т.д.. Яе пацьвердзіў 5-ты Лятэранскі Сабор і з яе фактычна пачынаецца запраўдны папацэзарызм.

*"Вялікая Схізма":* Па прычыне моцнай лацінскай прапаганды дасюль людзі на Захадзе, а і на Ўсходзе, мала разьбіраюцца ў сутнасьці г.зв."Вялікай Схізмы", што паўстала ў Царкве Хрыстовай у сярэдзіне XI веку. Вось тады на Ўсходняя Цэрквы была кінена несправядлівая мянушка "схізматыкаў", калі ў запраўднасьці было якраз наадварот: гэта Заходняя Царква адлучылася тады ад Усходніх і то з зусім лягічных прычынаў – авантурнічаму папству стала дужа нявыгадна ў таварыстве праведных. Спакусіўшыся прыдуманай тэорыяй папскага праваднарства ў Царкве Хрыстовай, а далей і тэзай "беспамылковасьці", каб унікнуць сумарнага асуджэньня Саборамі ўсяе Апостальскае Царквы папства пачало гвалтам дабівацца і ўрэшце дабілася разрыву з Цэрквамі Ўсходу, з Праваслаўем. Рым добра ведаў, што раней ці пазьней яго чакае вялікі асуд-ганьбаваньне з боку Цэркваў-Сёстраў за паводзіны папаў. Вялікім папярэджаньнем у гэтым кірунку былі пастановы Сафійскага Сабору 867 г. ў Канстантынопалі, дзе чытаем, што (1)Экумэнічныя Саборы – найвышэйшы аўтарытэт для ўсіх Цэркваў, улучна з Рымскай; (2)Саборы могуць склікацца і бяз згоды папы; (3)Тэорыя папскай беспамылковасьці – прыдуманая ерась; (4)Дадатак "філіёквэ" да Сымбалю Веры – таксама ерась. Гэта апошняя навет была асуджаная мудрым і справядлівым папам – а былі і такія! – Янам VIII (872-882 гг) і адкінутая на Саборы 880 г. ў Канстантынопалі пры ўдзеле і за



згодай легатаў папы Яна. Ня гледзячы на гэта, як ведаем, дадатак "філіёквэ" быў усё-ж пазьней узаконены на Захадзе і астаецца тут у поўнай сіле па сяньняшні дзень!

Хоць Рым і не прызнаў пастановаў Сабору 867 г. яны зрабілі там найгоршае ўражаньне і лацінькікі пачалі ўсур'ёз рыхтавацца да рашучай расправы з Грэкамі. Усё-ж каб адважыцца на канчатковы разрыў спатрэбілася ім каля 180 гадоў... Беспасярэдняй прычынай паслужыла крытыка лацінскіх царкоўных практыкаў грэцкім епіскапам паўдзённай Італіі. "Абураны" Ватыкан пасылае ў Канстантынопаль сільную дэлегацыю з пратэстам і з дамаганьнем послуху папе з боку патрыярха... Не даехала дэлегацыя да Бізантыі, як памёр папа Леў IX, які яе паслаў – і так дэлегацыя павісла ў паветры, страціўшы свой мандат. Але легаты ў Рым не вяртаюцца, а ня гледзячы на нішто пачынаюць дзеіць ад імя курыі ватыканскай. Калі-ж ні патрыярх Міхаіл Керулярый, ні імпэратар Канстанцін IX Манамах не зьвярнулі найменшай увагі на іхныя фантастычныя патрабаваньні, раніцай дня 15-га ліпеня, 1054 г., яны цішком увайшлі ў Сафійскі Сабор перад Службай Божай і палажылі на аўтар акт адлучэньня *імі* ад Царквы патрыярха Міхаіла і яго прыхільнікаў. Скліканы патрыярхам Сынод прызнаў гэты акт абсурдным і кінуў анафему на легатаў.

Што-ж тады фактычна сталася ў той злавесны 1054 г.? А запраўды дужа мала, як мы бачылі вышэй: рымская дэлегацыя, якая нікога не рэпрэзэнтавала, абмянялася анафемамі з патрыярхам Канстантынопальскім – і гэта ўсё. А паколькі анафемы былі асабістыя, Цэрквы не пацярпелі, а гэта азначае, што фармальна схізма зусім не адбылася. Так на гэныя падзеі глядзелі з боку грэцкага. У Рыме-ж паўстала зусім іншая гісторыя: тут курыя прыдумала "Вялікую Схізму" або аддзяленьне ўсіх Усходніх Цэркваў ад"Экумэнічнай Царквы Хрыстовай", хоць фармальна тая "Вялікая Схізма" асталася непацьверджанай ніякім актам па сяньняшні дзень! Такім чынам з волі ватыканскай курыі Рымская Царква апынулася адзіным сябрам "Адзінай Сьвятой Саборнай і Апостальскай (Экумэнічнай) Царквы Хрыстовай"(!), а ўсе Праваслаўныя Цэрквы аказаліся вонках Яе! А паколькі "саборны",або агульны, па грэцку "кафолікос", каб замацаваць гэта слова за лацінянамі, Рымскую Царкву і пачалі вялічаць "каталіцкай"! Так курыя ватыканская выманэўравала Праваслаўных у "схізматыкі", а лацінян у "каталікі" – яўна кіраваная пры гэтым злым духам,бо абодва тэрміны нявечаць і перакручваюць праўду ўверх дном: Праваслаўныя ніколі ня ішлі і не патрабавалі ісьці на схізму, проста ня было ў іх да гэтага ніякай прычыны, а лаціняне самі зракліся прынцыпу саборнасьці, каб пазьбегчы кары (адлучэньня...) за свае скандальныя паводзіны – якія-ж яны тады каталікі?

930 гадоў хвальшу і ілжы, здавалася-б даволі часу, каб выправіць памылкі і вярнуцца на сьцежку праўды. Нажаль, далёка да гэтага, хоць за час гэты Рымскай Царквою патрэсьлі вялікія катастрофы (Рэфармацыя), чаго зусім ня бачым на Ўсходзе – ці-ж не найлепшы паказ правільнасьці шляху Праваслаўя?! Але ўсё гэта, як выглядае, ні на ёту ня зьменшыла ўяўных прэтэнсіяў папства і Рымская Царква як была, так і астаецца ў жудкай ерасі.

–– о ––

Мы ўсе са страхам сочым за нязьведанымі шляхамі Прадбачнасьці Боскай: канавала Яна, відаць, усім Цэрквам Усходнім, у тым ліку

і нашай, муцаніцкі шлях, якім Яны ступаюць і па сяньняшні дзень, да канца верныя Яму і Яго Слову. Але цярністы шлях гэты, завалены валунамі, памог нам утрымаць чыстай у сэрцах нашых Веру ў Яго, Збаўцу нашага. У гэтым наша радасьць, ня гордасьць перад іншымі.

Затое Заходняй Царкве Бог канаваў зусім іншы лёс. Паслаў Ён Ей нячуваны дабрабыт, магутнасьць, багацьце і ўладу... – запраўды, як у казцы той... Сяньня ўжо ня цяжка бачыць, што гэта быў вялікі выклік-выпрабаваньне чалавечай натуры, якая, як і прадбачана Ім, падвяла на ўсёй лініі, спакушаная ружовымі праспэктамі велічы, уплываў, улады над іншымі, і г.д.. А ў гэтым шуме зямной славы здаецца беспаваротна затраціўся ціхі голас Спаса, Яго напамінаньні, Яго папярэджаньні, і папы завялі Царкву сваю ў бязвыхадныя нетры жалю годных ерасяў, без магчымасьці якой-колечы дапамогі-карэктывы з боку Цэрквы-Сёстраў Усходу. Такі сумны стан на сяньня парозьненых частак Царквы Хрыстовае.

Які-ж з усяго гэтага вывад для нас? Што кажа нам гісторыя? Муцаніцкі шлях народу сьведчыць нязьбіта пра шкоды, якія нанесла нам папства. Жывучы ўвесь час, ад пары Шарлманя і па сяньняшні дзень, на пэрыфэрыі дзеяньня рымскіх экспансійных уплываў, нам канавана было вякамі пераносіць усе жахі бяспрынцыповасьці ватыканскай стратэгіі: у выніку мы страцілі зямлю нашых прадзедаў і лепшую частку нашага пляменнага грамадзтва – рамесьнікаў і ўсякіх спэцыялістых, што асталіся на эўрапэйскім Захадзе, дзе папалі анямечаньню; у Літве рымская акцыя прынясла нам страту ўсіх нашых вышэйшых і сярэдніх клясаў за кошт іхняй паляніізацыі – гэта раскалола народ наш на дзьве варожыя сабе часткі і аслабіла дзяржаву да такой ступені, што яна не змагла больш даваць адпору пасяганьням Масквы; урэшце Вунія ў Берасьці і яе ліквідацыя Масквою ў 19-тым ст. прынясла нам далейшае паглыбленьне дыхатоміі-раздваеньня ў народзе і новыя вялікія страты коштам паляніізацыі, а пазьней і русыфікацыі. Вось такі наш адмоўны балянс з Заходняй Царквою і з папствам.

Сяньня, з гледзішча больш чым тысячалетняй пэрспэктывы, ці можам ігнараваць навуку гісторыі? Ніякім чынам! Таму прыходзіцца моцна дзівіцца, што ёсьць у нас людцы гатовыя забыцца на сьведчаньні трагічнага мінулага, каб навязаць нам новую Вунію... Мы шчыра спагадаем іх інтэлектуальнай бесдапаможнасьці... ды ад сябе скажам толькі, што Беларусы, добра правучаныя горкім дазнаньнем гісторыі, роўна цэняць усякую вунію – ці яна будзе з Рымам, ці з Варшавай, ці урэшце з Масквою. Што-ж запраўды патрэбнае нашаму беднаму люду, гэта мецьтут і на вольнай Беларускай Зямлі сваю вольную Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву, якая магла-б вольна працягваць вялікія традыцыі Царквы сьв.Ефрасіньні, княгіні Полацкай, сьв. Кірылы Тураўскага, ды іншых нашых сьвятых і мучанікаў. Так, ёсьць у нас вялікая і багатая традыцыя, ды ёсьць у нас свая родная Царква, адзіна здольная задзіночыць нас у Хрысьце ўв адну дружную сям'ю ды гэтым перастравіць скрыўлены ход нашай гісторыі з дэструкцыйных на канструкцыйныя рэйкі. Вораг гэта добра ведае і яму Яна, наша Б.А. П.Ц., зусім не падабаецца... Таму ня дзіва, што на Яе навальіліся ўсе сатанінскія сілы, каб сьцерці Яе з твару зямлі... Вось да дружнай і адданай абароны Яе, нашай Сьвятой Царквы, і клічам усіх тых, хто нам суліць Вунію, як і ўсіх нашых людзей добрай волі – каб нам ня сорам было перад пакаленьнямі, што прыдуць пасьля нас, каб не закідалі нам нашчадкі нізкую бязыдэйнасьць і пошлы апартунізм.



# Першая малітва з Вячэрні Сьв. Тройцы (Пяцідзясятніцы)

Прачысты, бязгрэшны, беспачатны, нябачны, недасяжны, непазнавальны, нязьменны, неперіаможны, нязьмерны, доўгацярплівы Госпадзе, адзіны несьмяротны, што жывеш у сьвятле недаступным: стварыўшы неба і зямлю і мора, і ўсё на іх, раней просьбы ўсім прошанае падаеш, Табе молімся і просім Цябе, Уладыка Чалавекалюбча, Госпада Айца і Бога-Спаса нашага Ісуса Хрыста, Які дзеля нас людзей і дзеля нашага спасеньня зыйшоў з нябёс і прыняў цела ад Духа Сьвятога і Вечна-Дзевы Марыі, праслаўленай Багародзіцы: Які спачатку словам вучыў, потым-жа і чынам паказаў, калі збаўляючыя перацярпеў мучэньні, даўшы нам пакорным і грэшным, недастойным слугам Тваім прыклад, як схіляючы шыю і калені ўзносіць да Цябе маленьні за свае грахі і за людзкія несьвядомасьці. Сам многаміласьцівы і Чалавекалюбец пачуй нас, якога-б дня мы не прызывалі Цябе, асабліва-ж у дзень гэты пяцідзесяты, у які Ты, пасьля Узьнясеньня Госпада нашага Ісуса Хрыста на нябёсы і Яго сяджэньня праваруч Цябе, Бога і Айца, паслаў Сьвятога Духа на сьвятых Сваіх вучняў і Апосталаў, Які і зыйшоў на кожнага з іх і яны ўсе напоўніліся невычэрпнай Ласкі Ягонае,і гаварылі рознымі мовамі пра веліч Тваю, і прарочылі. Пачуй нас сяньня, што молімся Табе, і ўспомні нас пакорных, асуджаных, ды вывядзі з палону душы нашыя, зьмілаваньне Тваё над намі маючы. Прыймі нас, прыпадаючых да Цябе і ўсклікаючых: зграшылі, Табе адданыя ад улоньня мацеры, ад чэрава маці нашае – Ты ёсьць Бог наш. Але як прайшлі ў марнасьці дні нашыя, страцілі мы Тваю дапамогу, пазбавіліся ўсякае абароны, але адважваючыся надзеяцца на шчодрасьці Твае, клічам: грахоў юнацтва нашага і няведаньня не ўспамінай і ад таемных грахоў нашых ачысьці нас. Не пакінь нас у дні старасьці, калі аставяць нас сілы: не пакінь нас раней, чым нам вярнуцца ў зямлю – дай, Госпадзе, да Цябе вярнуцца, ды прымі нас ахвотна і ласкава. Мерай беззаконствы нашыя шчодрасьцямі Тваімі: пастаў супраць мноства шчадротаў Тваіх безьліч праступстваў нашых. Глянь з вышыні сьвятое Твае, Госпадзе, на людзей цяпер да Цябе прыпадаючых, што чакаюць ад Цябе багатых міласьцяў. Наведай нас дабратой Тваёю: вызвалі нас ад насільля дыявала. Умацуй жыцьцё наша ў Тваіх сьвятых і сьвяшчэнных законах. Вернага Ангела-Абаронца прыстаў да людзей Тваіх, усіх зьбяры ў Тваё Царства. Дай дараваньне тым, што надзеяцца на Цябе: адпусьці ім і нам грахі. Ачысьці нас дзеяньнем Сьвятога Твайго Духа – разбуры падкопы варожыя супраць нас.

Благаславенны Ты, Госпадзе Ўседзяржыцелю, прасьвятліўшы дзень сьвятлом сонечным, а ноч – зоркамі агнявымі, што даў нам пражыць даўжыню дня і наблізіцца да пачатку ночы: пачуй малітвы нашыя і ўсіх людзей Тваіх, ды даруй усім нам грахі вольныя і нявольныя. Прыймі вячэрнія маленьні нашыя і пашлі мноства міласьці Твае і шчадротаў Тваіх на дабытак Твой. Агарадзі нас сьвятымі Ангеламі Тваімі, узброй нас зброяй праўды Твае, агарадзі нас праўдаю

Тваёю, захавай нас сілаю Тваёю, выбаві нас ад усякае напасьці, ад усякага здрадлівага згавору ворага. Зрабі нам і сяньняшні вечар, із надыходзячай ноччу, дасканалым, сьвятым, мірным, бязгрэшным, бесспакусным, безьлятуценным, як і ўсе дні жыцьця нашага: малітвамі Сьвятое Багародзіцы і ўсіх сьвятых, якія праз усе вякі былі ўгоднымі Табе.

# Другая малітва з Вячэрні Сьв. Тройцы (Пяцідзясятніцы)

Госпадзе Ісусе Хрысьце, Божа наш, што падаў мір Твой людзям і дар Прасьвятога Духа, яшчэ жывучы між намі, ды ў насьледзтва неад'емнае верным заўсёды падаеш: найбольш яўна гэтую ласку ў гэты дзень Тваім вучням і Апосталам паслаў і іх вусны агнявымі языкамі ўмацаваў; праз іх-жа ўвесь род людзкі Богапазнаньне адчуўшы, сьвятлом Духа прасьвятліўся і ад аблуды цемры аддаліўся, ды навучыўся веры разданьнем бачных і агнявых языкоў і надпрыродным дзеяньнем, каб усе веры ў Цябе навучыліся і Цябе благаславіць із Айцом і Сьвятым Духам, ув адзіным Бажастве, у сіле і ўладзе прасьвяціліся. Бо Ты ёсьць зьзяньне істоты Айца і нязьменны,непарушны абраз прыроды Ягонае, Крыніца прамудрасьці і Ласкі. Адкрый і мне грэшнаму вусны і навучы мяне, як належыць маліцца і дзеля якіх патрэб, бо Ты ведаеш мноства маіх грахоў, але Твая Міласьць пераможа іх безьліч. Бо са страхам стаю перад Табою, у мора Міласьці Тваё роспач душы маей кінуўшы: пакіруй жыцьцём маім Ты,што праз слова ўсім тварэньнем нявымоўнай сілай прамудрасьці правіш; ціхае прыстанішча кіданых бурай – пакажы мне дарогу, па якой ісьці, Духа прамудрасьці Твае падай маім думкам, Духа розуму – шаленству майму, Духам страху Твайго пакрый мае чыны і Духа правага аднаві ў вантробе маёй, ды Духам Уладарным думак маіх намер замацуй, каб усякага дня Духам Тваім Добрым на добро настаўлены быў, каб мог выконваць Запаведзі Твае і заўсёды памятаць Тваё слаўнае (другое) прышэсьце і допытнае асуджэньне за ўчыненае намі. Ня дай мне спакушацца тленным і прыгожым сьвету гэтага, але ўмацуй маё жаданьне на атрыманьне будучага скарбу. Бо Ты сказаў,Уладыка, што калі хто просіць ад Твайго Імя, вольна атрымае ад Твайго спрадвечнага Бога Айца. Таму і я грэшны, у дзень зыходу Сьвятога Твайго Духа да Твае малюся міласьці, каб падаў мне, чаго-б я ні прасіў на спасеньне. Так Госпадзе, усякага дабрачынства багаты дарыцелю і падацелю добры, бо Ты падаеш усё шчадрэй таго,чаго просім: Ты ёсьць жаласьлівы і міласьцівы, што бязгрэшна быў сужыцелем цела нашага і да тых, што схіляюць перад Табою калені, міласьціва схіліўся і стаў адпушчэньнем грахоў нашых. Падай, Госпадзе, людзям Тваім шчадроты Твае: пачуй нас з Неба Сьвятога Твайго, асьвяці нас сілай Збаўляючай Рукі Твае, пакрый нас покрывам крыл Тваіх, не адкінь тварэньня рук Тваіх. Перад Табою адзіным грашым, але Табе адзінаму і служым. Ня ведаем, як пакланяцца чужому богу, ані як працягваць рукі нашыя,Уладыка, да іншага бога. Даруйнам правіны і прымі ад нас, на каленях стоячых, малітвы, падай усім нам руку дапамогі і прымі малітву усіх, як кадзіла прыемнае, што прыносіцца прад Тваім Усядобрым Царствам.



Госпадзе, Госпадзе, спасі нас ад усякае стралы, што ляціць удзень, і ад усякага ліха, што.цемраю прыходзіць. Прымі ахвяру вячэрнюю, узьніманьне рук нашых. Дай нам і начную пару бяз грэху пражыць, без спакусы ад злога, і выбаў нас ад усякае зьбянтэжанасьці і боязі, што ад дыявала да нас прыходзяць. Даруй душам нашым пакору і думкам нашым дбайнасьць пра допыты на страшным і праведным Судзе Тваім. Прыгвазьдзі да страху Твайго целы нашыя і ўмярцьві пажадлівасьці цела нашага каб і ў сонным маўчаньні мы прасьвячаліся бачаньнем прысудаў Тваіх. Аддалі ад нас усякае няпрыстойнае лятуценьне і шкодную юрлівасьць. Зрабі, каб у час малітвы мы ўмацаваліся ў веры і мелі посьпех у выпаўненьні Запаведзяў Тваіх.

# Сьветлай Памяці Протапрасьвіцер Др. Аўген Смаршчок

З Божае волі дня 5-га кастрычніка, 1984 г., нечакана адыйшоў на вечны супакой Протапрасьвіцер Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, а.др.Аўген Смаршчок. У ім Царква наша страціла выдатнага пастыра і беларускага патрыёта, кіраўніка Б.А.П.Ц. на Эўропу.

Айцец Аўген радзіўся 29-га верасьня, 1914 г., у м.Зэльва, Слонімскага павету. У 1934 г. скончыў Сьвіслацкую Настаўніцкую Сэмінарыю ды быў пакліканы ў польскае войска. З выбухам вайны 1939 г. быў мабілізаваны і ў Варшаве папаў у нямецкі палон. У Нямеччыне навязвае лучнасьць з беларусамі, звальняецца з палону і пасяляецца ў Бэрліне. Тут спачатку працуе на хвабрыцы, пазьней запісваецца на бэрлінскі унівэрсытэт і студыюе псыхалёгію.

Пасьля вайны, у 1947 г., узнаўляе жтудыі ў гор.Марбургу, Заходняя Нямеччына, дзе і здабывае дыплём магістра псыхалёгіі ў 1950 г,.

Пасьля вайны, у 1947 г., узнаўляе студыі ў гор.Марбургу, Заходняя Нямеччына, дзе і здабывае дыплём магістра псыхалёгіі ў 1950 г.. Дня 16-га жніўня месяца,таго-ж году, жэніцца са студэнткай фармацыі, Зояй Жэлязоўскай. Бачучы вялікую патрэбу ў сьвятарстве для адроджанай Б.А.П.Ц. на чужыне, пастанаўляе прыняць ерэйскі сан і аддацца цяжкой працы на пастырскай ніве служэньня Богу і свайму Народу. Чын рукапалажэньня выканаў Епіскап Б.А.П.Ц.,сьв.п.Васіль (Тамашчык) у верасьні 1950 г..

У тым-жа 1950 годзе а.Аўген з м.Зояй перасяляюцца ў г. Лювэн (Бэльгія), дзе ў той час была ладная група беларускіх студэнтаў. Як сьвятар Б.А.П.Ц.а.Аўген абслугоўвае адсюль беларускія асяродкі Бэль-

гіі і Францыі. Адначасна запісваецца на лювэнскі унівэрсытэт, які канчае ў 1955г. з тытулам доктара пэдагогікі. Заўсёды прагны да навукі, у 1965 г. ён наведвае Вольны Унівэрсытэт у Брукселі, дзе год пазьней піша на францускай мове працу "Гістарычны і сучасны стан беларускай бібліяграфіі", ды атрымоўвае ступень магістра славістыкі.

Навуковыя дасягненьні нябошчыка кваліфікавалі яго на становішча прафэсара ў вышэйшай школе перакладчыкаў у Антвэрпэне, дзе ён і працаваў аж да выхаду на пэнсію ў 1980 г., спалучаючы выклады ў школе з самаахвярнай душпастырскай дзейнасьцю. У тым-жа годзе сям'я а.Аўгена перабралася на сталае жыцьцё ў мястэчка Гэвэр каля Мэхэлену. Тут і пражыў ён да апошніх дзён свайго заўсёды актыўнага жыцьця, да канца выконваючы свой душпастырскі абавязак. За сваю 34 гадовую ахвярную службу ў Б.А.П.Ц. а.Аўген быў ушанаваны епіскапскімі Ўзнагароднымі Граматамі ды найвышэйшым сьвятарскім санам Протапрасьвіцера.

Паховіны Протапр.др.Аўгена Смаршчка мелі месца дня 13 кастрычніка, 1984 г.. Сьвятую Літургію і пахавальны абрад ачоліў прыбылы з Англіі Мітрафорны Пратаерэй Ян Абабурка ў саслужэньні Пратаерэя Яна Пекарскага і іншых. Усяго на адпяваньні і ў паховінах прыняло ўдзел шэсьць сьвятароў і два дыяканы. Апрача нашых і а. Аляксандра з Лёндану, усе іншыя сьвятары былі з юрысдыкцыі Парыскага Архіпіскапа Георгія, які належыць да Канстантынопальскага Патрыярха. Усяго прысутнічала на паховінах звыш 300 асобаў. Апрача мясцовых беларусаў ды прадстаўнікоў з Англіі, Францыі, Нямеччыны і з Канады, былі ўкраінцы, бэльгійцы (флямандцы і валенцы) і навет расейцы. Усе яны прыбылі, каб ушанаваць добрага прыяцеля і вялікага чалавека.

Сьвятой памяці айцец Аўген увесь час і да апошніх дзён свайго працавітага жыцьця быў верным пастырам Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы на чужыне і Яе Мітрапаліта.

Будзем маліць Госпада і Спаса нашага Ісуса Хрыста, каб Ен дабратліва прыняў душу нова-прадстаўленага слугі Божага а.Аўгена ў Сваё Валадарства Нябеснае. ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!

Протапрасьвіцер Васіль Кендыш

# А Ў САЎТ РЫВЭРЫ ВАЎКІ ВЫЮЦЬ...

Усе мы ведаем тую казку народную – трываў воўк, трываў, ды ня вытрываў і завыў... Ну і дасталося-ж яму каламі, дурню...

У нашай вялікай бядзе царкоўнай, нарыхтаванай нам сатаною, мы так і забыліся, што ёсьць у нас яшчэ адна скула – яна старая ўжо, засохлая, але вярэдзіць яшчэ... – наша старое зарубежжа... Перакачаваўшы з Нямеччыны ў ЗША, каб з лепшым эфэктам шкодзіць мацнеючай Б.А.П.Ц., яно прыкрылася хвастом: пакінуўшы часова сваіх прыяцеляў з Рускай Зарубежнай, яны ўхітрыліся прымкнуць да Грэкаў і стварылі папяровую фікцыю пад гучным назовам Рады Беларускіх Кананічных Цэркваў, ставячы гэтым ненавісную Б.А.П.Ц. "на від" як неканантчную царкву-сэкту... Праступна! Але хто мог ім гэта забараніць? Ды хто мог забараніць Ватыканскай Курыі, якая ў 1054 г. самавольна абвесьціла Рымскую Царкву адзінай кананічнай Царквой у сьвеце, або Палякам, якія накінулі нашай Царкве Вунію, ізноў каб зрабіць Яе "кананічнай", ці тым Маскалём, што ліквідавалі ў нас Вунію, як неканантчную Царкву...Выглядае, што кажны раз, калі слугам сатаны і іншым нягоднікам трэба было прыкрыць неяк агіднасьць сваіх дзеяў, яны нязьменна хапаліся за кананічнасьць...

Праз больш чым чатыры гады нутранога крызысу ў Б.А.П.Ц. зарубежжа вяло сябе адносна спакойна. Але благадаць гэта кончылася – воўк завыў... і то як! Скуль-жа воўчая радасьць? Вядома – з развалу Б.А.П.Ц.! Вось апошні нумар (1984г.) іхняга часапісу "Царкоўны Сьветач", што выдаецца раз у год у сталіцы зарубежжа, Саўт Рывэр, Н.Дж., у якім сярод суцэльна палітычнага матарыялу неяк знайшлося месца і на адзін артыкул царкоўнае тэматыкі (па духу ён глядзіць у бок тае самае палітыкі...) пад загалоўкам "Развал БАПЦ", пісаны на ўзроўні агіткі аўтарам-невукам (схаваўся пад ананімкай), якому цяжка разабрацца навет у градацыі герархічных тытулаў царкоўных. Не разабраўся ён як сьлед і ў маім рэфэраце, чытаным на III Саборы Б.А.П.Ц. у Манчэстары, Англія, (друкуецца ў гэтым нумары), у якім я зарысаваў шырокую гістарычную панараму нашых суадносін з За-
я зарысаваў шырокую гістарычную панараму нашых суадносін з За-
ходняй Царквою ўлучна, разумеецца, з перыядам Берасьцейскае Вуніі, пра якую з нястачы часу я ня змог шмат сказаць, пра што і адзначана ў тэксьце. Наагул, Вунія гэта адно сымптом хваробы-зла, што прыгнятала нас цягам звыш тысячы гадоў, а прычынай якой было папства і палітыканцтва Ватыкану. У маім рэфэраце я стараўся ахарактарызаваць папства ўсебакова і разглядзіць яго ролю, як фактара у нашым гістарычным працэсе – і, мне здавалася, што я выканаў заплянаваную працу фахова і сумленна.

Прызнаюся, што на пахвалы не спадзяваўся ад нікога, але-ж не спадзяваўся і на дзікія атакі, якіх удастоіўся ад зарубежніцкіх гарапісакаў у разгляданым артыкуле. Бо закідаць без паданьня найменшых фактаў мне і іншым, працуючым для дабра Б.А.П.Ц., што мы калі-небудзь "сьведама, або нясьведама, за грошы або з меркаваньняў асабістае кар'еры, стараліся разьяднаць Беларусаў на рэлігійнай ніве пры дапамозе Ватыкану..." можа толькі поўны вар'ят, адпетая каналія, ці пакорны služка сатаны, які вось такім нячуваным хамствам адбівае паклоны свайму пану...

Але гэта толькі пачатак банкету... Далей ачмурэлыя небаракі бяруцца судзіць нашу Сьвятую Царкву і кідаюць на Яе цяжкое і ізноўжа цалком беспадстаўнае абвінавачаньне: для іх Яна Сьвятой звацца "ня можа ўжо таму, што бальшыня Яе духавенства рукапакладзена некананічна..."(а тая "кананічная" мяншыня, чым лепшая? – спытаўся-б хто), ды што быццам Яна "ня мае кананічнага благаславенства ад іншых кананічных Праваслаўных Цэркваў..." Адносна гэтага варта спытацца невукаў-судзьдзяў: якія дакладна каноны вымагаюць такога "благаславенства"? Справа ясная: такіх канонаў зусім няма і таму такіх вымаганьняў нашай Сьвятой Царкве ніхто, апрача зарубежнікаў, ніколі ня ставіў. Варта заўважыць, што ў сваім зьвінавачаньні яны аж тры разы хапаюцца за "кананічнасьць" і прыпомнім сказанае вышэй на гэту стараватую ўжо тэму.

Паўстае пытаньне – скуль бралі зарубежнікі свае "кананічныя" трыкі? Вось-жа, нельга забывацца, што ёсьць Царква, якая ніколі нам не папусьціць і век будзе прад'яўляць нам "кананічныя" патрабаваньні, каб запярэчыць Царкве нашай права на існаваньне: гэта Расейская Царква – роўна Патрыяршая, Сынадальная (Зарубежная), ці іншыя. Там зараджаецца ўвесь яд варожай агітацыі супроць нашай Царквы – як заўсёды, усе сьцежкі-дарожкі зарубежжа вядуць у Маскву...Ня нам зьвяртацца туды за благаславенствам: наша Маці-Царква ёсьць Канстантынопаль – адтуль да нас прыйшло хрысціянства, калі на Маскверацэ яшчэ пушча царыла... А з Экумэнічным Патрыярхам у нас адносіны як-найлепшыя: там нас добра ведаюць, належна разумеюць нашу унікальную сытуацыю, любяць нас і трактуюць, як братоў. Мы ў кантакце і з дзейнікамі Патрыярхату Антыяхійскага і навет Александрыйскага, і ўсюды нас трактуюць з поўным прызнаньнем і братняй хрысьціянскай любоўю. Так-што дармо цяпер, пасьля 37 год Яе існаваньня, узьнімаць крык пра некананічнасьць нашае Сьвятое Царквы: усе нашыя Епіскапы, што былі і што ёсьць сяньня (апрача таго аднаго, што быў пакараны і адлучаны), абсалютна кананічныя – а гэта і ёсьць адзінае праўна-кананічнае патрабаваньне ад Царквы. Такімі-ж былі і ёсьць усе выконваныя імі акты, у тым ліку і высьвячэньне кандыдатаў на духоўныя пасады. Усё наша духавенства было і ёсьць кананічным. Ніхто і ніколі ў гэтым не сумняваўся.

Далей гора-грамацей з "Царкоўнага Сьветача" вычытаў у маім рэфэрацэ, што я быццам "выразна" гавару там, "што за кулісамі трагедыі Б.А.П.Ц. стаіць Ватыкан..." Гэта ізноў-жа звычайная ілжа, бо я так ня пісаў, а з таго, што Ватыкан вітае разгром нашае Царквы, выяўна вынікае, што "чорную работу" для і за яго выконвае хто іншы...Гэта не ўв абарону Ватыкану, а праўды, якую нягодніку спадобілася перакруціць, каб кінуць у Царкву нашу новым каменем-абсурдам: хоць і няма ведама скуць узяты, але яму "Факт просты і зразумелы: група БАПЦ" – так трактаваць Царкву Хрыстовую можа толькі подлы слуга сатаны – "ня выканала загад Ватыкану. Ватыкан гэтую групу стварыў і дапамог яе існаваньню..." Хто, што, дзе, калі і як? – дармо пытацца ачмурэлага (ці п'янага?) цемрашала... Хто-б не хаваўся за гэтай ананімкай, той, хто яе апублікаваў, папоўніў праступства перад Народам і нанёс ганьбу натых, каго рэпрэзэнтуе.

Астаецца адказаць на адно цікавае пытаньне: Калі не Ватыкан, дык хто стаіць "за кулісамі" трагедыі нашае Сьвятое Царквы? Праўда і тут ляжыць у кірунку, якога зарубежнікі быццам саромеюцца, яны хаваюцца з ім, але душою яны ўсе там...Кірункам тым ёсьць старая Масква-матушка... О так, гэта адтуль падаслалі нам людзей адпаведна падрыхтаваных, з яўнай мэтай развалу нашых парафіяў, а калі дасца, дык і ўсяе Царквы. Гэта адтуль ідзе ўся інсьпірацыя і шкодны ўплыў на адзінкі, ды тэрор на ўсіх людзей нашых, якія ў страху кідаюцца разбураць, што самі-ж збудавалі...Праўда, Ватыкану бяда наша на руку (яму, як відаць, карціць пажаць плён, дзе ня сеяў...), але ўсе яго дзеяньні абмяжоўваюцца да ўплываў на і праз адзінкі толькі (вуніяцкія групы ў Чыкага і ў Лёндане маюць мінімальны ўплыў на Б.А.П.Ц.) ды як такія ня могуць быць аснаўной прычынай нашага крызысу, ані прычынай таго, што ён так доўжыцца. Найлепшым довадам тут ёсьць факт, што дасюль ніхто з адшчэпнікаў не пайшоў у Вунію!

Хоць наш гора-радактар стрэліў ня ў той бок..., усё-ж яго антыватыканскі азарт заслугоўвае увагі: надта-ж ён ужо ім ганарыцца, быццам нейкім асаблівым дасягненьнем (ці не ўнасьледаваў ён яго ад тае-ж свае "матушкі"..., дзе ён ад вякоў быў падвалінай царскай царкоўнай палітыкі?) і ў гэтым азарце ставіць "дзейнікам БАПЦ" бязглузды і галаслоўны закід, быццам яны да гэтага часу так і"ня ведалі аб тым, якую шкоду для нас прыносіла Ватыканская Вунія..." Бязумоўна, усё гэта блазнота, якою наш гора-пісака хоча паказаць сваё анты-ватыканскае "геройства", забываючыся, што ў нас такіх герояў, што кропляў у моры...Бо ўсякі можа ўзьняць крык на Ватыкан, ды крычэць што хоча і колькі хоча без найменшай рызыкі, ці небясьпекі – геройства несамавітае...Але вось каб наш пісака ды папрабаваў так узьняцца супроць Масквы, гэта было-б запраўднае геройства, да якога яму далёка. Ува ўсёй сваей пісаніне ён нятолькі не сказаў аднаго слоўца пра галоўнага віноўніка нашага закалоту, нятолькі абыходзіць яго на цыпачках, баючыся выклікаць ліха на сваю галаву, але яўна стараецца падставіць Ватыкан, другараднага нашага ворага, на месца галоўнага, Масквы, робячы гэтым важную ўслугу чырвонай сатане. Вось у чым праявілася ўсё ягонае геройства...

Вось адкуль у гэтых дзіўных людзей, у нашых зарубежнікаў, бярэцца тая жывёльная ненавісьць да адзінай праўдзівай Беларускай Царквы, якой ёсьць Б.А.П.Ц.: чамусьці яны перанялі нятолькі дух і мэтады маскоўскія, але навет мэты...Бо-ж мэтай Масквы заўсёды было і ёсьць зьнішчэньне Б.А.П.Ц. і зарубежжа гэта вітае...А я, прызнаюся, наіўна думаў, што толькі Ватыкан гэта вітае. Вось у якім адборным таварыстве апынуліся гора-павадыры зарубежжа – яны адчужыліся ад нашага Народу, страцілі права звацца Беларусамі.

І чаго тут задавацца нейкай кананічнасьцяй, фактычна служачы сатане і фактычна ня маючы ні кала, ні двара...Бо-ж нічога з таго, што пабудавалі зарубежнікі ахвярнасьцяй шчырых людзей, не належыць ані царкве іхняй, ані людзям, а толькі Грэкам, пад чыёй юрысдыкцыяй яны апынуліся. Вось так: Грэкі далі ім (уяўную...) апеку, але ўзамен забралі ўсю маемасьць, бо такі ёсьць закон.

А з Б.А.П.Ц. справа стаіць зусім інакш: гэта нятолькі Беларуская Кананічная Царква, але і праўна аформленая, самастойная арганізацыя, якая поўнасьцю валодае ўсей сваей маемасьцю. Штоколечы людзі ахвяруюць, астаецца ў Царкве нашай, астаецца беларускім, ды ідзе на агульную карысьць людзей і Царквы: у гэтым моц і сіла наша – мы ёсьць голас праўды і свабоды; зарубежжа астаецца і надалей глухім водгульлем ілжы, цемры і няволі.

Таму, хоць вораг нас атакуе з усіх бакоў – што ёсьць натуральным і няўхільным – ці не зарана завылі ваўкі ў Саўт Рывэры? Ці не зарана служкі сатаны пачалі радавацца з "развалу" Б.А.П.Ц.: Яна існуе і будзе існаваць, бо Яна Царква Хрыстовая, аснаваная на вечных падвалінах Праўды Ягонае і "сілы пякельныя не адоляць Яе"(Мцв 16,18).

Адносна-ж "аб'еднаньня Праваслаўных Беларусаў у замежжы", дык я ўжо выказаў нагэта свой пагляд у маім рэфэрацэ. Паўтараю: яно магчымае толькі і выключна круга і на базе Б.А.П.Ц..Ніякае іншае магчымасьці няма з тае простае прычыны, што іншае Царквы ў нас няма... Толькі пакорныя служкі дыявала могуць цешыцца з таго, што сталася ў нашай Сьвятой Царкве. Усе іншыя дзень і ноч моляцца да Ўсявышняга, каб нам Яе захаваў.

Пётра Манькоўскі

## З ПАРАХВІЯЛЬНАЕ ХРОНІКІ

### Парахвія сьв.Віленскіх Мучанікаў у Мэльбурне, Аўстралія

Шырака ведамая міжцаркоўная арганізацыя ў Мэльбурне, B.I.K.I.K., як раней і ў гэтым годзе (1984) урачыста адзначыла Зыход Сьвятога Духа на Апосталаў. Урачыстасьць згуртавала 22 2рысьціянскія Цэквы, сярод іх 10 Праваслаўных, улучна з Б.А.П.Ц., Выдатна выканаў сваю частку наш царкоўны хор. Урачыстасьць была фільмаваная і паказвалася па тэлевізіі ў дзень Сёмухі-Тройцы.

З нагоды Тыдня Паняволеных Народаў дня 22 ліпеня, 1984 г., духавенства Праваслаўных, Пратэстанцкіх і Рыма-Каталіцкае Цэркваў адслужыла супольны Малебен. Нашу Прахвію рэпрэзэнтаваў настаяцель, а.Аляксандар. Малітву за Бацькаўшчыну і Народ пабеларуску прачытала Надзя Груша. Наш бел-чырвона-белы сьцяг трымалі сябры Цэнтральнага Камітэту.

18 лістапада Парахвія наша ўрачыста адзначыла 3-ю гадавіну пасьвячаньня храму. Малебен Удзячнасьці саслужылі: настаяцель а.Аляксандар і а.Уладзімер із У.А.П.Ц.. Пасьля Багаслужбы Сястрыцтва зладзіла багаты супольны пачастунак, а гурток маладых сьпявачак пацешыў усіх мілагучнымі напевамі беларускіх народных песьняў. З прамовамі выступілі: старшыня і сакратар Пар.Рады, а.Уладзімер, а.Аляксандар і сакратар Сястрыцтва. Усім было радасна і міла.

64 угодкі Слуцкага змаганьня былі адзначаны 25-га лістапада: Як і ў мінулыя гады, пасьля сьв.Літургіі настаяцель і вернікі наведалі беларускія могілкі, каб пры агульным Памятніку адслужыць Паніхіду за ўпакаеньне душ усіх ведамых і няведамых суродзічаў-беларусаў, што злажылі у ахвяру жыцьцё сваё, каб жыла Бацькаўшчына...

Дня 13-га студзеня, 1985 г., у Копцкай (Егіпецкай) царкве быў адслужаны ўрачысты Малебен з нагоды 30-гадовае службы Патрыярха Александрыйскага Шэнауда III, пры ўдзеле значнай колькасьці духавенства. Б.А.П.Ц. рэпрэзэнтаваў настаяцель а.Аляксандар.

31-га студзеня ў Катэдры сьв.Ап.Паўлы, Англіканскай Царквы, мела месца станаўленьне 10-га Дзекана Мэльбурна. У цырымоніі прыняло ўдзел шматлікае хрысьціянскае духавенства. Ад Б.А.П.Ц. прысутнічаў а.Аляксандар.

24-га лютага адбыўся звычайны гадавы справаздачны сход нашай Парахвіі. Справаздачы далі: старшыня і скарбнік Пар.Рады,Рэвізійная Камісія ды а.настаяцель Парахвіі. Прынята колькі важных пастановаў. Пасьля сходу, з нагоды сырапуснае-даравальнае нядзелі,наша Сястрыцтва парупілася пра супольны пачастунак – бліны..



**Да ўвагі нашых дарагіх чытачоў:**

Па прычыне павышаных коштаў друку мы былі змушаныя павысіць цану за адзіночны экзэмпляр Голасу Царквы да $3.00. Другой прычынай гэтага факту ёсьць крытычны стан фінансаў Кансысторыі.

Рэдакцыя